Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№3 (4598) 21 студзеня 2011 г.

## У нумары:



# *Ігуменн Еўдакія:*

# «Добрая кніга — тая, якая вядзе чалавека да Бога»

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Адным з лаўрэатаў прэміі "За духоўнае адраджэнне" 2010 года была названа ігуменн Еўдакія (Любоў Пятроўна Ляўшук), настаяцельніца Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра — за значны асабісты ўклад у духоўнае адраджэнне Беларусі, выдавецкую, духоўна-асветніцкую дзейнасць, плённую працу па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны. Мы гутарым з матушкай Еўдакіяй пра духоўнасць сучаснага мастацтва і асветніцкую дзейнасць Спаса-Еўфрасіннеўскай абіцелі.**

**— Скажыце, матушка, што самае цяжкае на сённяшні дзень у інацкім служэнні?**

— Добра тое, што ў нас у краіне — свабода веравызнання, і чалавек, які хоча прынесці сэрца сваё Госпаду, не сустракае на шляху сваім ніякіх перашкод. Але сёстры прыходзяць у абіцель з міра, які значна менш духоўны, чым было гэта ў мінулыя часы. І таму ім безумоўна цяжэй, чым іх папярэднікам, цалкам аддаваць сябе Богу, самааддана служыць іншым.

**— А што самае цяжкае ў асветніцкай справе?**

— Асветніцкая дзейнасць… Калі распавядаць пра нашу абіцель, то трэба сказаць, што ў нас ёсць нядзельная школа, бібліятэкі, сёстры займаюцца выданнем кніг, праводзяць экскурсіі для тых, хто прыязджае сюды… Усе гэтыя занятки ў абіцелі называюцца паслушэнствамі і выконваюцца з мэтай богаўгаджэння і ратавання душы. Безумоўна, сёстры, якія праходзяць такія паслушэнствы, сутыкаюцца з многімі цяжкасцямі. Тут можна правесці евангельскую паралель, узгадаць пра служэнне Марфы і Марыі. Манахіні, якія пакінулі свет, ужо абралі добрую частку разам з Марыяй. Асветніцкія ж працы надта клопатныя, патрабуюць шмат часу, душэўных сіл. І, канечне ж, у манастыры гэта вельмі няпроста. Тут патрэбна асаблівая дапамога Божая.

**— Як і калі ўзнікла ідэя выдаваць пры манастыры кнігі?**

— З першага дня, як мы пераехалі ў Полацк з Жыровіцкай абіцелі — бо Полацкі манастыр быў зачынены з 1960 да 1990 года — мы сталіся вывучаць гісторыю нашай абіцелі. Хацелася знайсці як мага больш матэрыялаў пра святую нашу Нябесную апякунку прападобную Еўфрасінню Полацкую. У рэшце рэшт сабралася шмат цікавага матэрыялу. І захацелася падзяліцца сваімі ведамі з усімі, каму гэта трэба. Так і распачалася наша кнігавыдавецкая дзейнасць. Спачатку гэта былі брашуркі, буклеты, пасля — невялікія кніжкі. І ўрэшце як вынік нашай шматгадовай дзейнасці да стагоддзя Перанясення мошчаў святой Еўфрасінні з Кіева ў Полацк з'явіўся фаліянт "Полоцкое радование". У ім сабраны ўнікальныя фактычныя і фотаматэрыялы пра падзею, яе галоўных ініцыятараў і ўдзельнікаў, а таксама — экскурсам — пра мінулае і сучаснасць абіцелі. Аднак нават у самай вялікай і тоўстай кнізе сабраць усе веды немагчыма. І вось цяпер мы выношваем думку аб выданні кнігі, у якой падрабязна і грунтоўна была б расказана гісторыя Спаса-Еўфрасіннеўскай абіцелі. На сённяшні дзень гэта адзін з праектаў.



**— Рыхтуючы свае выданні, ці заклікаеце вы да супрацоўніцтва свецкіх асоб?**

— Безумоўна. Калі мы адчуваем патрэбу ў парадзе спецыяліста ці то ў адпаведнай кансультацыі. Але асноўную работу робяць нашы сёстры.

**— Сёння ствараецца шмат літаратурных твораў пра святую Еўфрасінню Полацкую і яе час. Вядома, што сёстрам даводзіцца часта самім выступаць у якасці кансультантаў для свецкіх творцаў. Ці заўжды вы задаволены вынікамі такога супрацоўніцтва?**

— Мне яшчэ раз хацелася б сказаць пра тое, што для манахаў і манахінь самая галоўная справа – гэта малітва. Усё ж іншае ў абіцелі выконваецца "за паслушэнства". Да нас, сапраўды, нярэдка прыязджаюць свецкія пісьменнікі, паэты, рэжысёры, якія ў творчасці сваёй звяртаюцца да духоўнай, правільней сказаць, да царкоўна-гістарычнай тэматыкі, да жыцця прападобнай Еўфрасінні. Безумоўна, у такіх сітуацыях мы не можам адмовіць ім у пасільнай дапамозе. Нярэдка пра рэаліі духоўнага жыцця спрабуюць пісаць людзі малацаркоўныя, іншы час зусім не знаёмыя з Праваслаўем. На жаль, здараецца, што такім людзям проста даводзіцца даць зразумець, што ім лепш звярнуцца да іншай тэмы… Але бывае і інакш. Бывае, што супрацоўніцтва атрымоўваецца. Як правіла, гэта адбываецца тады, калі сумесна з аўтарам абмяркоўваецца канцэпцыя будучага твора, калі аўтар, што стварае кнігу альбо фільм пра нашу абіцель, выкарыстоўвае дакладныя гістарычныя матэрыялы, падыходзіць да справы адказна і прафесійна. Тады атрымоўваецца сатворчасць.

**— А ці кансультуюцца з вамі аўтары мастацкіх кніг, кінафільмаў? Вось, да юбілею Святога Крыжа Лазара Богшы шматсерыйны фільм рэжысёра Аляксандра Яфрэмава выходзіць на экраны. У планах "Беларусьфільма" — мастацкая кінастужка пра Еўфрасінню Полацкую рэжысёра Людмілы Дубdroўскай…**

— Што датычыць мастацкіх фільмаў, тут надта вялікая небяспека прафанацыі, падмены сапраўдных духоўных каштоўнасцей сурагатам фальшу і вымыслу. Мы лічым, што не варта дзеля забавы публікі маніпуляваць у кадры такой вялікай святыняй, як Крыж Святой Еўфрасінні. Праваслаўная Царква ў самай вышэйшай сваёй інстанцыі — у пастановах Усяленскіх і Памесных Сабораў — ніколі не давала блаславення на стварэнне сцэнічных вобразаў Госпада Ісуса Хрыста, Прасвятой Багародзіцы, святых. Можна, напрыклад, зняць дакументальны фільм пра абіцель прападобнай Еўфрасінні ці то мастацкую стужку пра эпоху Прападобнай, яе час, зняўшы "суб'ектыўнай камерай", як быццам бы вачыма Прападобнай, але без яе самой у кадры. Зразумела, што меркаванні людзей, якія правялі большую частку свайго жыцця ў манастыры і людзей, што жывуць у міры, могуць быць рознымі. Таму рэжысёрам згаданых вамі фільмаў я жадаю стаць шчыра і глыбока праваслаўнымі людзьмі. Што ж датычыць мастацкіх кніг пра святых, — яны могуць дапамагчы тым, хто знаходзіцца яшчэ на шляху да веры. Многае залежыць ад таго, як і з якой мэтай гэтыя кнігі напісаны.

**— Хто ж і дзеля чаго мусіць пісаць кнігі?**

— Пісаць мусіць духоўны чалавек, той, хто ведае, ва ўсялякім разе, што дабро ўзнагароджваецца, а грэх заўжды караецца. Пісьменнік павінен дзеля таго, каб наблізіць чытача да разумення Боскіх ісцін і запаведзяў. Паверце, чалавек створаны для вечнасці, для вечнай радасці. І калі добрыя кнігі становяцца для душы маякамі, што ўказваюць шлях да Бога, то потым, у вечнасці, душа гэтая будзе дзень за днём узгадваць іх аўтараў з вялікай падзякай.

## Пункціры

Сёння адбудзецца цырымонія ўступлення на пасаду нававыбранага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Цырымонія будзе праходзіць у Палацы Рэспублікі. Пасля яе завяршэння адбудзецца святочны канцэрт майстроў мастацтваў. Мерапрыемства будзе трансліравацца па ўсіх каналах беларускага тэлебачання. Пачатак прамой трансляцыі — 12.50 (па мінскім часе).

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў рэдакцыі газеты "Белорусская нива" з 90-годдзем выхаду ў свет першага нумара газеты. "Значны творчы патэнцыял і майстэрства дазволяць вам заваяваць яшчэ большую папулярнасць у чытачоў і аўтарытэт у журналісцкай супольнасці", — адзначыў кіраўнік дзяржавы.

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" супрацоўнікаў рэспубліканскага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Ганну Малей, Таццяну Жукоўскую і Людмілу Лоўчую.

Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка сустрэўся з Паўнамоцным Паслом Італьянскай Рэспублікі Арнальда Абеці. Былі абмеркаваны падыходы да падпісання міжурадавага пагаднення аб супрацоўніцтве ў сферы культуры, арганізацыя стажыровак беларускіх студэнтаў і спецыялістаў у Італіі, супрацоўніцтва ў сферы аховы і рэстаўрацыі гісторыка-культурнай спадчыны.

Помнік архітэктуры XVII стагоддзя, Ружанскі замак Сапегаў паўстане ў рэшце рэшт з руін. Аднаўленне яго разбіта на чэргі, і на сённяшні дзень завершаны работы, што датычаць першага этапу першай чаргі. Гатовая ўязная брама, скончана знешняя і ўнутраная рэстаўрацыі ўсходняга флігеля, у якім ужо аформлена экспазіцыя. А ў гэтым годзе плануецца правесці рэстаўрацыйныя работы ў заходнім флігелі.

Віцебскі абласны музей Героя Савецкага Саюза Міная Шмырова прадставіў наведвальнікам унікальныя экспанаты, звязаныя з гісторыяй партызанскага руху. Асобныя экспанаты выстаўкі "Новыя паступленні 2009 — 2010 гадоў" — самыя цікавыя — былі знойдзены зусім нядаўна, падчас работ па добраўладкаванні паркавай тэрыторыі музея. Усяго ў экспазіцыі прадстаўлена 50 адзінак захоўвання.

Пасля рэканструкцыі і рэстаўрацыі адкрыўся Магілёўскі абласны тэатр лялек. Работы на гэтым аб'екце вяліся больш як два гады. За гэты час быў праведзены капітальны рамонт старога будынку, помніка архітэктуры XIX стагоддзя, пабудавана сучасная сцэна і глядзельная зала на 200 месцаў. Пад залай размясціліся майстэрні, дзе будзе наладжана вытворчасць лялек і дэкарацый для спектакляў.

Кіраўніцтва Віцебскай абласной філармоніі, дзе ў гэтым годзе ўпершыню была арганізавана работа Раждзественскай музычнай акадэміі для юных музыкантаў у дні зімніх школьных канікул, заявіла пра свае намеры ў перспектыве пашырыць напрамкі, па якім будуць праводзіцца майстар-класы (гэтай зімою іх было толькі два — вакал і фартэпіяна) і запрасіць да супрацоўніцтва вядомых педагогаў па аргане, баяне і акардэоне.

Падрыхтавала Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Чытач — галоўны настаўнік творцы

**На прэс-канферэнцыі "Актуальныя пытанні дзейнасці Саюза пісьменнікаў Беларусі" былі агучаны некаторыя вынікі работы творчай арганізацыі за мінулы год.**

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

Старшыня саюза Мікалай Чаргінец адзначыў, што гэты перыяд быў плённы: многія праекты рэалізаваны пры падтрымцы не толькі дзяржаўных, але і прыватных выдавецтваў. У "Бібліятэцы Саюза пісьменнікаў Беларусі" выдадзена больш як 50 кніг у цвёрдай вокладцы. Акрамя таго, у вялікім фармаце выходзяць творы класікаў — Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Максіма Танка, Івана Шамякіна, Івана Чыгрынава. Заснавана новая серыя "Бібліятэка сучаснай фантастычнай і прыгодніцкай прозы" (22 кнігі надрукаваны ў выдавецтве "Харвест").

Клопаты пра творчую моладзь — адна з задач саюза. Літаратурныя конкурсы ў намінацыях "Проза", Паэзія", "Сатыра і гумар", "Краязнаўства", "Публіцыстыка", "Песенны жанр" і іншыя дапамагаюць выявіць новыя імёны. Гэта не дазваляе літаратуры старэць. Ствараюцца ўмовы для далейшага актыўнага развіцця дзіцячай літаратуры.

Мікалай Чаргінец падкрэсліў, што летась нямала зроблена для ўмацавання міжнародных літаратурных сувязей. Саюз плённа працуе над стварэннем беларускага аддзялення Міжнароднага літфонду. Гэта дапаможа пісьменнікам атрымліваць сякія-такія сродкі на выданне кніг.

Сакратар Саюза пісьменнікаў Георгій Марчук дадаў, што да сяброўства з намі далучыліся літаратары Літвы, Польшчы, Балгарыі. Заключаны пагадненні аб супрацоўніцтве з літаратарамі Казахстана, Таджыкістана і Турцыі. Рыхтуецца да выдання ў перакладзе на турэцкую мову раман М. Чаргінца "Сыны".

Як вядома, літаратура нараджаецца з глыбіні народнай душы. Таму празаікі, паэты часта ладзяць вечарыны ў раённых і вясковых асяродках культуры, выступаюць перад рабочымі, калгаснікамі, вайскоўцамі. Калі пісьменнік адчувае сваю кроўную сувязь з народам, гэта надае яму натхнення і сілы.

Дзейнасць беларускіх літаратараў адзначана на дзяржаўным узроўні. Два пісьменнікі ўзнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны, дзевяць — аднайменным медалём. Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта ўдастоены тры пісьменнікі, а міжнародных літаратурных прэмій — дзевяць.

— Творы нашых калег атрымліваюць добрую адзнаку чытачоў. Аднак дрэнна ідзе прапаганда кнігі. Інфармацыя пра навінкі і аўтараў амаль не даходзіць да патэнцыяльнага чытача, — зазначыў кіраўнік Саюза. — Таму цяпер будзем працаваць над тым, каб рыхтаваліся анатацыі на кнігі, разам з фота і біяграфіяй аўтара, каб гэтая інфармацыя трапляла ў бібліятэкі, каб выданне зацікавіла чытача.

Пісьменнікі Рыгор Сакалоўскі і Міхась Пазнякоў расказалі журналістам пра творчыя здабыткі літаратараў Міншчыны і сталіцы Беларусі.

Варта адзначыць, што ўсе выступоўцы адкрыта гаварылі пра недахопы, праблемы Саюза, выказвалі сваё меркаванне пра апошнія палітычныя падзеі ў краіне, ролю пісьменніка ў сённяшнім жыцці. Адказваючы на пытанне "Калі ж у нас з'явіцца свая "Вайна і мір"?", Мікалай Чаргінец заўважыў: "У рамане Льва Талстога — іншы час, шмат рамантыкі. Цяпер рамантыка сыходзіць, таму што на дапамогу людзям прыходзіць мноства робатаў, тэхнікі. Умовы жыцця мяняюцца. Сёння пісьменніку больш патрэбна знайсці тонкую нітку "чалавек і сучаснасць", паказаць псіхалогію грамадства. Выконваць жа сацыяльны заказ працей публіцыстам, аматарам прыгодніцкага жанру".

— Кіравать воляй і творчасцю мастака немагчыма, — дадаў Георгій Марчук. — Калісьці Быкаў сказаў: "Мы ўжо напісалі сваю "Вайну і мір". Складзіце ўсё ад Вараб'ёва, Бондарава, Быкава, Мележа і ўсіх, хто пісаў пра вайну, — і будзе наша "Вайна і мір". Літаратура мяняецца. Кліпавая свядомасць прывучыла нас да іншага. Мы пішам каротка. У нас свой час, свая зямля, свае героі.

Іншымі словамі, стваральнік мастацкага твора будучыні, класік — не хто іншы, як сучасны пісьменнік. І ў яго ёсць толькі адзін настаўнік — чытач.

## Прынятыя ў СПБ



**Хізры Газіевіч АСАДУЛАЕЎ**
*Паэт*

Нарадзіўся 1 красавіка 1956 года ў с. Карата Ахвахскага раёна (Рэспубліка Дагестан). Скончыў Дагестанскае мастацкае вучылішча, Арлоўскае мастацкае вучылішча, Арлоўскі дзяржаўны ўніверсітэт. Член Беларускага саюза мастакоў, Беларускага саюза музычных дзеячаў. Скульптар па прафесіі. Старшыня праўлення Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Горо". Лаўрэат беларускіх рэспубліканскіх фестываляў нацыянальных культур 2006, 2008 і 2010 гадоў як паэт і выканаўца аўтарскіх песень. У 2009 годзе выдаў зборнік вершаў "Горо". Перакладае таксама творы беларускіх паэтаў на сваю родную карацінскую мову.



**Аляксандр Аляксандравіч БАРАНОЎСКІ**
*Паэт*

Нарадзіўся 7 верасня 1988 года ў в. Церуха Гомельскай вобласці. У 2006 г. паступіў у Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф.Скарыны на філалагічны факультэт. Друкаваўся ў абласных і раённых часопісах і газетах, у калектыўных зборніках "Натхненне" (2007, Мазыр), "Шматгалоссе Палесся" (2007, Гомель), "Гомельшчына літаратурная" (2009, Мазыр). У 2008 годзе ў Мінску ўбачыў свет першы зборнік А. Бараноўскага "Чуйнае акно".

Дыпламант раённага конкурсу бардаўскай паэзіі і песні "Вясёлыя струны душы"; лаўрэат першага літаратурнага конкурсу імя Кірылы Тураўскага.

## За падзеяй

# Сталіца вітае... сталіцу!

**Два дні працягвалася ў Мінску прэзентацыя горада Полацка — «Культурнай сталіцы Беларусі 2010 года».**

**Акурат год таму найстаражытны і легендарны горад на Дзвіне атрымаў статус першай Культурнай сталіцы нашай краіны. Самой жа новай акцыі "Культурная сталіца Беларусі" было наканавана зрабіць даступнымі лепшыя дасягненні нацыянальнай культуры для ўсіх землякоў — жыхароў гарадоў і глыбінкі. У межах гэтай акцыі на працягу года Полацк наведалі лепшыя беларускія мастацкія калектывы і салісты, ладзіліся разнастайныя творчыя праекты, фестывалі ды конкурсы, выстаўкі абласнога, рэспубліканскага і міжнароднага ўзроўню. І пра найбольш яркія з гэтых падзей "ЛіМ" распавядаў сваім чытачам.**

Лана ІВАНОВА

І вось — заключны акорд акцыі: Полацк, які ўвесь год з гонарам трымаў высокае званне першай Культурнай сталіцы краіны, прадставіў у яе галоўным горадзе набыткі свайго творчага жыцця і гістарычнай спадчыны. Фармальна гэтая прэзентацыя працягвалася два дні. Аднак чарада яе святочных мерапрыемстваў, удзельнікамі якіх сталі больш як 300 палачан, яшчэ пэўны час будзе сілкаваць культурнае жыццё Мінска.

Чым жа запомніцца іх візіт?

Спектаклем "Дзядзечкаў сон" паводле Ф. Дастаеўскага, паказаным артыстамі заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь Полацкага тэатра "Пілігрым" гарадскога Палаца культуры. Выстаўкай "Полацкі сонцаварот", на якой прадстаўлены творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва тамтэйшага Цэнтра рамёстваў і нацыянальных культур ды кампазіцыі юных мастакоў і паглядзець якую можна, завітаўшы ў галерэю Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці. Экспазіцыяй унікальнага залатога скарбу з музейнага збору Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка — у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Фотавыстаўкай "Полацк у асобах", якую прадставіў знаны майстар Эрнст Цецяроўскі.



Падчас гала-канцэрта "Горад над Дзвіной — родны Полацк мой...", яркую праграму якога склалі выступленні лепшых полацкіх мастацкіх калектываў, адбылася сімвалічная цырымонія перадачы ганаровага звання Культурнай сталіцы Беларусі слаўнаму гораду Гомелю.

***На здымку:** сцэна са спектакля "Дзядзечкаў сон" заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь Полацкага тэатра "Пілігрым".*

## Юбілей

# Сто год без дзесяці

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**"Белорусская нива" — гэта сімвал развіцця нашай краіны за 90 гадоў", — такімі словамі галоўны рэдактар газеты Сяргей Міхові распачаў прэс-канферэнцыю, прысвечаную юбілею выдання.**

За гады свайго існавання газета пяць разоў мяняла назву. Але як бы яна ні называлася, актуальнасць тэматыкі ва ўсе часы была вялікай. Бо Беларусь, паводле слоў цяперашняга галоўнага рэдактара, "правінцыйная дзяржава ў лепшым сэнсе гэтага значэння". Бо ў Беларусі нават цяпер, у час найбольшага росквіту гарадоў і гарадской індустрыі, на вёсцы пражываюць 2,5 мільёна чалавек. Бо 90 працэнтаў жыхароў нашай краіны сваё паходжанне вядуць ад сельскіх працаўнікоў, і таму павага да сельскай працы ў нас у крыві.

Чалавек, які працуе на зямлі, менш за ўсё здольны паддавацца ілюзіям, таму заваяваць яго павагу можна толькі праўдай факту, канкрэтыкай прапаноў, карыснай інфармацыяй. Выступаючы перад калегамі-журналістамі, рэдактар "Белорусской нивы" абвергнуў сцвярджэнне, што, маўляў, вёска на Беларусі "старэе". "Гэта гледзячы якая вёска", — сказаў ён.

За апошні час на сяле нямала зроблена дзеля таго, каб там захацелі затрымацца маладыя сем'і. А ідэя з аграгарадкамі наогул аказалася цудоўнай. Таму разлічваць толькі на пенсіянераў супрацоўнікам выдання не варта. І "Белорусская нива" прапануе матэрыялы для маладых і энергічных гаспадароў. А ў іх асаблівым попытам карыстаюцца артыкулы пра фермерскі рух, аграбізнес. Безумоўна, як у кожнага выдання, у "Белорусской нивы" ёсць свае недапрацоўкі, у ліку такіх рэдактар газеты назваў недастатковае, на яго погляд, асвятленне навуковых распрацовак у галіне АПК. "Мы жывём у надта цікавы час, — падзяліўся з прысутнымі Сяргей Міховіч. — Пяць апошніх гадоў былі ўнікальнымі — Беларусь здзейсніла вялікі прарыў у эканоміцы. І мы асэнсоўваем, што з'яўляемся летапісцамі не толькі гісторыі вёскі, але і гісторыі краіны".

## Літабсягі

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

# Шляхта — сярод нас

**Раней, калі цікаўны беларус хацеў знайсці дакументальныя доказы свайго шляхецкага паходжання, свой родавы герб, яму даводзілася карыстацца польскімі крыніцамі ці знакамітым “Общим гербовником дворянских родов Российской империи”. Цяпер жа кола пошуку пашырылася: яшчэ адной крыніцай, і, як адзначаюць спецыялісты, сапраўдным практычным даведнікам стала кніга Уладзіміра Крукоўскага “Срэбная страла ў чырвоным полі: з гісторыі беларускіх прыватных гербаў”, што пабачыла свет у РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Прэзентацыя гэтага выдання адбылася ў мінскім “Кніжным салоне”.**



Сама імпрэза прайшла не ў зусім звычайным фармаце. На ёй у ролі слухачоў і зацікаўленых чытачоў кнігі ў будучыні прысутнічалі сапраўдныя спецыялісты-кнігазнаўцы. Прэзентацыю правяла Таццяна Рошчына, бібліёграф навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Уражаннямі ад знаёмства з выданнем дзяліліся тыя, каго можна лічыць экспертамі ў кнігазнаўчай галіне. Гэта Аляксандр Стэфановіч, загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАН Беларусі, Валерый Герасімаў, загадчык аддзела стадрукаваных кніг і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, Генадзь Кажамякін, вядучы бібліятэкар аддзела рэдкай кнігі бібліятэкі БДПУ імя М. Танка.

Дырэктар РВУ “Літаратура і Мастацтва” Алесь Карлюкевіч заўважыў: “Калі мы рыхтаваліся да выхаду працы У. Крукоўскага, думалася, што будзем запачаткоўваць і асобны праект выдання кніг выключна бібліяфільскага характару, бо як выдавецтва нас вельмі цікавіць старая кніга. Мяркую, выданне “Срэбная страла ў чырвоным полі” будзе мець шырокі розгалас. Бо часам вельмі важна сабраць разам матэрыялы, раскіданыя па сучасным друку, масмедыйнай прасторы, прасторы літаратурна-мастацкіх і іншых выданняў. Амаль усе выявы гербаў, што ўвайшлі ў гэтую кнігу, друкаваліся ў газеце “Звязда”, разам з якой мы таксама рэалізоўвалі гэты праект”.

Сам аўтар выдання мастак У. Крукоўскі расказаў гісторыю стварэння кнігі. Ён заўважыў, што ўжо атрымлівае як станоўчыя водгукі ад чытачоў, так і чуе крытыку ў свой адрас. “У прадмове я падкрэсліваю, што спісы шляхты і пералік гербаў не прэтэндуюць на канчатковасць, магчымыя ўдакладненні і дапаўненні, за што аўтар будзе шчыра ўдзячны чытачам”, — заўважыў Уладзімір Якаўлевіч. Таму і магчымыя заўвагі будуць цалкам зразумелыя.

***На здымку:** Уладзімір Крукоўскі прэзентуе кнігу “Срэбная страла ў чырвоным полі”.*

## Артлінія

# Жывапіс на рубяжы

**Другі месяц у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі працуе выстаўка, здатная не толькі пашырыць ды паглыбіць наш досвед у рускім выяўленчым мастацтве, а яшчэ і яшчэ раз пераканаць аматараў жывапісу, наколькі багатая калекцыя захоўваецца ў гэтай скарбніцы творчасці.**

Лана ІВАНОВА

Пад назвай “Рускі жанравы жывапіс XIX — першай чвэрці XX стагоддзя” экспануюцца карціны з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея. Экспазіцыя складзена такім чынам, што глядач можа прасачыць, як ад традыцый ідылічнага жывапісу першай паловы — сярэдзіны XIX стагоддзя рускія мастакі пераходзілі да адкрытага выяўлення крытычнага погляду на рэчаіснасць, як імкнуліся праз увасабленне сацыяльных тыпажоў ды індывідуальных характараў раскрываць пэўныя жыццёвыя сітуацыі. Подых свайго часу захавалі палотны такіх майстроў, як Віктар Васняцоў, Канстанцін ды Уладзімір Макоўскія, Барыс Кустодзіеў, Мікалай Касаткін, Карл Лемах, Павел Якаўлеў... Выстаўка адлюстроўвае і рэакцыю рускіх жывапісцаў на непазбежнасць эпохі вялікіх сацыяльных змен, што ўжо адчуваліся на памежжы XIX — XX стст. Тут і памкненні мастакоў захаваць з'явы патрыярхальнай рэчаіснасці, якім наканавана было знікнуць, і пошукі новага ў “артдаксальных” традыцыях жанравага жывапісу.

Сярод тых, хто вучыўся ў мастакоў-перасоўнікаў і сфарміраваўся як творчая асоба найперш пад уплывам Васіля Паленава, быў Абрам Архіпаў. Часам на перасоўных выстаўках карціны маладога жывапісца падаваліся французскімі — з-за кідкіх мажорных фарбаў, разняволеных і віртуозных мазкоў, хоць з творчасцю імпрэсіяністаў ён пазнаёміўся пазней. Захапленне А. Архіпава колерам і выразнымі магчымасцямі светлавых эфектаў выявілася і ў своеасаблівай серыі партрэтаў ярка апранутых сялянак — пераважна, з яго роднай Разанскай губерні. У дэкаратыўнай колеравай гаме такіх партрэтаў дамінуюць інтэнсіўныя чырвоны, ружовы... Архіпаўскія “сялянкі ў чырвоным” былі адначасова і знакам пераемнасці “народніцкіх запаветаў” перасоўнікаў, і ўвасабленнем агульначалавечага зместу, і праявай “рэвалюцыйнага пафасу” — праз неўтаймоўныя і дзёрзкія каларыстычныя пошукі.



Матывы горада, асяроддзе рускай інтэлігенцыі пачатку XX стагоддзя прадстаўленыя ў творах Мікалая Кузняцова, Аляксандра Маравава, Іосіфа Браза, якія ўносяць тонкі паэтычны штрых у атмасферу выстаўкі.

***На здымку:** палатно са знакамітай серыі “чырвоных сялянак” А. Архіпава.*

## Повязі

Ірына ТУЛУПАВА
фота Кастуся Дробава

# Размаўляем па-нямецку

**Міжнародная вандроўная выстава “Размаўляем па-нямецку” з сярэдзіны тыдня расчыніла свае дзверы ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А.С. Пушкіна. Мерапрыемствы распачаліся рэп-воркшопам (адмысловым майстар-класам) для тых, хто вывучае нямецкую мову. Учора адбыўся таксама воркшоп па паэтычным слэме. А сёння а 17-й гадзіне ў Пушкінцы адбудзецца ўрачыстае адкрыццё гэтай мультымедыйнай і інтэрактыўнай выставы.**




Падрыхтаваная Домам гісторыі Федэратыўнай Рэспублікі Германія і Інстытутам імя Гётэ, выстава перакульвае нашы традыцыйныя ўяўленні. У адрозненне ад тых экспазіцый, дзе зазвычай экспанаты выстаўляюцца для агляду і пад шклом (“не чапаць рукамі!”), усё падначалена супрацьлегламу прынцыпу: трэба дакранацца! Унушальнае новае абсталяванне, змантаванае ў выглядзе самастойных асобных мініпакойчыкаў, падзеленых “сценамі”, у якія ўмантаваны экраны манітораў з сенсарнымі дысплеямі, прадастаўляюць унікальныя магчымасці “дакранання” да аўдыёкніг, часопіса, газеты... Прычым, без перашкод для суседа. Тут можна ўключыць “тэлевізар” і праслухаць праграму — пра тое, як вывучалі нямецкую мову імігранты ў Германію, альбо як не забываюцца на яе, родную, тыя, хто знаходзіцца па-за межамі Радзімы. Тут прадстаўлены шырокі спектр экспанатаў: ад слоўніка Братоў Грым і арыгінальнага выдання гётэўскага “Вертэра” да кніжак выдавецтва “Рэклам”, што часта выкарыстоўваюцца на занятках і па-мастацку аздабляюцца вучнёўскай рукой, ад маладзёжнага жаргону да кароткіх паведамленняў SMS.

Падобнае мерапрыемства — нагода для таго, каб звярнуць увагу на сябе ў сучасным свеце, яшчэ раз сцвердзіць: “Чалавек стварае мову, але і мова стварае чалавека!” Дырэктар Інстытута імя Гётэ ў Мінску сп. Катрын Оствальд-Рыхтэр, прэзентуючы выставу, распавяла пра тое, як распрацоўваюцца міжнародныя стандарты па вывучэнні мовы, каб кожны адчуў, наколькі жывой, шматзначнай з'яўляецца нямецкая. Нам, напэўна, гэта вельмі блізка і зразумела — у дачыненні да нашай роднай беларускай.

У розныя дні ў Пушкінцы збяруцца творцы розных кірункаў: артысты, музыкі, майстры слова, — дэманструючы насамрэч арганічны сінтэз мастацтваў. Прыкладам, Табіяс Борке запросіць на канцэрт “На ўліку кожнае слова”. Аўтарская песня і лёгкія нямецкія тэксты сустрэнуцца ў музычнай праграме Марыя Сігезмунда. Караценькія гісторыі з жыцця можна будзе праслухаць па-нямецку і ў беларускім перакладзе ў выкананні акцёра Аляксандра Марчанкі. Будуць яшчэ сцэнічныя чытанні з удзелам Зоі Белахвосцік, Валянціны Гарцуевай і Аляксандра Казела.

***На здымку:** дырэктар Інстытута імя Гётэ Катрын Оствальд-Рыхтэр, намеснік дырэктара Мінскай абласной бібліятэкі імя А. Пушкіна Вольга Малюга, кіраўнік аддзела мовы Інстытута імя Гётэ Дзмітрый Клячко і 2-і сакратар-консультант Катарына Лангэ падчас прэс-канферэнцыі.*

## З-пад пяра

Шчымлівыя гісторыі пра дзяцей педагога Наталлі Касцюк, якая больш як дваццаць пяць гадоў аддала працы ў дзіцячым доме, публікаваліся ў розны час у беларускіх газетах і часопісах. А ў канцы 2010 года плёнам падзвіжніцкага служэння маленькім выхаванцам Кобрынскага дзіцячага дома стаў зборнік “Детдомовские рассказы”. Кніга гэтая з блаславеннем Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта выйшла ў выдавецтве Беларускага экзархата і ўжо атрымала высокую ацэнку тых, хто імкнецца да высокага свету дабрыні і духоўнасці.

Аляксандр ЮДЗІЦКІ

З вялікім поспехам у Музеі гісторыі Гомеля прайшла выстаўка “Мазыр на паштоўках пачатку XX стагоддзя”. Яна з'явілася часткай вялікага праекта “Вандроўкі па гарадах Беларусі і свету”. Наведвальнікам выстаўкі былі прадстаўлены рэпрадукцыі рэдкіх паштовак з калекцыі даследчыка і лаўрэата прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь “За духоўнае адраджэнне” Уладзіміра Ліхадзедава. Усе яны ўвайшлі ў кнігу “Знічкі Айчыны”, у якой распавядаецца пра мінулае больш як 30 беларускіх гарадоў.

Вера ІЛЬЯНКОВА

Своеасаблівым святам лідскіх творцаў стала прэзентацыя альбома-спеўніка Рычарда Грушы “Беларуская зорка”. У ім прадстаўлены 37 песень для голасу ў суправаджэнні фартэпіяна. Музыку на словы аўтара напісалі Вячаслаў Пыпець, Васіліса Пазнухова, Уладзімір Гарачоў, Ігар Воран, Уладзімір Нарон з Ліды і Аляксандр Якіменка з Астраўца. Пасля віншаванняў у адрас Рычарда Баляслававіча прагучалі ўласна і з альбома песні ў выкананні іх аўтараў і ансамбля “Ліда-мюзікл”. Варта дадаць, што да гэтага Рычард Груша быў вядомы землякам больш як мастак і скульптар. Цяпер ён заявіў пра сябе і як паэт-песеннік.

Алесь ЖАЛКОЎСКІ

Міжнароднае грамадскае дабрачыннае аб'яднанне “Бачыць сэрцам” ужо добра вядомае на Беларусі як ініцыятар і арганізатар многіх мерапрыемстваў, мэтай якіх становіцца дзейсная дапамога маладым інвалідам па зроку. Такой, напрыклад, была выстаўка работ слабавідушчых юных мастакоў “Я бачу толькі яркія краскі. Я бачу ўсё” і “Беларуска-нямецкія Каляды”, праведзеныя сумесна з Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры і Інстытутам нямецкіх даследаванняў. Старшыня аб'яднання Элада Гукасава лічыць, што інваліды па зроку могуць і павінны жыць паўнавартасным жыццём, а інтэгравацца ў грамадстве ім дапамагае ўдзел у разнастайных культурных праектах. На 2011 год іх таксама плануецца нямала.

Ірына КРУТАСАВА

РВУ “Літаратура і Мастацтва” выказвае спачуванне начальніку ўпраўлення культуры Мінаблвыканкама Анатолю Леанідавічу Акушэвічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці БРАТА.

Рэдакцыя “Вясёлкі” выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніку часопіса, вядомаму пісьменніку Анатолю Зэкаву з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ Наталлі Цімафееўны.

РВУ “Літаратура і Мастацтва” выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку, супрацоўніку часопіса “Вясёлка” Анатолю Зэкаву з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

Анкета пісьменніка

## І час не той, і герой не той



*1. Існуе меркаванне: калі раней пісьменнік быў настаўнікам, вяшчальнікам ісціны, то цяпер стаў прыватнай асобай, якая рэдка паяўляецца нават на ТБ. І яшчэ радзей — у газетах. Чаму?*

*2. Падзенне нораваў — міф ці рэальнасць? Ці павінны кнігі “вучыць жыць”?*

*3. Як грамадская актыўнасць пісьменніка ўплывае на яго літаратурную працу?*

*4. Як вы думаеце, чаму знікае са старонак літаратурных выданняў публіцыстыка?*

**Алег САЛТУК, пісьменнік:**

**1.** Пачынаючы з Сімяона Полацкага — піїта, а потым — настаўніка царскіх дзяцей, амаль усе беларускія пісьменнікі сваімі творамі прывівалі чытачам праўду, веру, любоў, дабро, ісціну. У кожнага беларуса на кніжных паліцах красаваліся Купала і Колас, Багдановіч і Танк, Караткевіч і Панчанка, Мележ і Куляшоў, Броўка і Шамякін.

Менавіта з літаратурнага героя браў ці, наадварот, не браў прыклад чытач, пераасэнсоўваючы прачытанае.

Але гэта было “тады”. Цяпер, калі амаль усё стала нейкай віртуальшчынай, літаратар стаў невідзімкай, спытайце ў сённяшняга старшакласніка, каго з сучасных пісьменнікаў ён ведае — не адкажа, бо не ведае.

Ды і як адказаць, калі дзясяткі настаўнікаў роднай мовы і літаратуры вымушаны шукаць работу ў дзіцячых садках-яслях, падавацца ў так званую камерцыю: беларускіх гадзін у школьнай праграме не хапае.

Ды калі гаварыць адкрыта, то і наш брат літаратар перапісаў ужо даўно сваіх і чужых князёў і князёўнаў і ўзяўся за фантастыку. А што можна яшчэ рабіць, седзячы ў кабінетах ці кватэрах, адлучаючыся толькі ў архівы і кнігасховішчы? У гарадскім натоўпе не ўбачыш чалавека, а толькі яго цень, і то пры ўмове, калі свеціць сонца.

**2.** Усё выцякае адно з аднаго: вяршэнства эстраднай, кіношнай, тэатральнай, журналісцкай і літаратурнай папсы (а куды ад яе дзенешся?) спляжыла і мараль, і норавы. З дапамогай прасунутых топ-менеджараў, сцэнарыстаў, рэжысёраў, паэтаў-песеннікаў тыпу Рэзніка чорнае стала белым, а белае — чорным. Абы напаказ, абы заўважылі.

Аднак, нягледзячы на свой боль, боль сапраўдных пісьменнікаў, а не графаманаў, я глыбока перакананы ў тым, што часовае, смехатворнае, не вартае аніякай увагі ўсё ж міне.

**3.** Без грамадзянскасці, грамадскага дачынення да ўсяго таго, што адбываецца ў роднай краіне і не толькі ў ёй, сапраўднага творцы няма. Даруйце, можа, за нясціпласць, але калі б я не чытаў свае вершы сялянам, не жыў сярод іх тыднямі і месяцамі, не сустракаўся са студэнтамі і школьнікамі, не выступаў бы з артыкуламі на тэмы маралі ў сродках масавай інфармацыі, не ўдзельнічаў у жыцці абласной пісьменніцкай арганізацыі ў якасці члена яе савета, то нічога б добрага не напісаў, а калі б і напісаў нешта, то яно было б здубавеццем, якім падпёрта, на вялікі жаль, творчасць нават вельмі здольных маладых...

**4.** Было раней вельмі добрае слоўка “самапіска”: аўтаручка, якая брала з гумачкі чарніла, тое цякло на пяро, а пяро рабіла сваю справу, пакідаючы на паперы нейкія літарынкі. Такімі самапіскамі і самапісцамі ў большасці выдзяляюцца і нашы газеты, за рэдкім выключэннем і за выключэннем тых журналістаў, якім пад пяцьдзясят год і больш.

Гонар маю! І люблю я сваю прасветлую Беларусь і яе людзей не менш за тых, пра каго апошнія радкі маёй анкеты.

# Не ўсё вымяраецца грашыма

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

### Даходы і расходы

Канец адпачынку давялося дабываць у вёсцы Рабавічы Слаўгарадскага раёна. Пачатак студзеня, цямнее рана. Чым заняцца доўгімі нуднымі вечарамі? Усе кнігі гаспадара хаты даўно прачытаны. Глядзець “Маргошу”, “Марусю”, “Еўфрасінню”, “Інтэрны”, “Універ” і іншую лухту абрыдла. Накінуў на плечы кажушок і пашыбаваў у мясцовую бібліятэку. Думаў: папрашу некалькі нумароў часопіса “Полымя”, у якіх друкуецца раман Уладзіміра Гніламёдава “Валошкі на мяжы”, і чытаннем буду бавіць зімовы вечар. Своечасова прачытаная кніга — вялікая ўдача. Бывае яна здольна змяніць тваё жыццё так, як не зменіць яго лепшы сябра.

Бібліятэкар Фларыда Зайкоўская якраз рыхтавала для аддзела культуры райвыканкама справаздачу аб выніках леташняга года. Расказала, што ў кніжным фондзе каля шасці тысяч экзэмпляраў. У вёсцы 135 жыхароў, 131 з іх “ахоплены кнігай”. Гэта добры паказчык. Пенсіянерам, а іх больш як 50, літаратуру носіць сама. У асноўным дэтэктывы, парады па дамаводстве, кулінарыі, развядзенні хатняй жывёлы і птушкі.

— Людзі цяпер неахвотна чытаюць сур’ёзную літаратуру, — кажа гаспадыня, адклаўшы ўбок справаздачу, — вось любоўныя раманы нейкім попытам яшчэ карыстаюцца. Тэлевізар забірае нашых чытачоў. І… крама. Купіў пляшку “чарніла” — і душа спявае.

У невялічкай зале — паліца “Беларуская літаратура”, непадалёку шчыльнымі радамі стаяць часопісы “Полымя”, “Нёман”, “Маладосць”, “Алеся”, “Вожык”, “Вясёлка”. Ужо гэты факт — сведчанне таго, што немалыя фінансавыя сродкі на прапаганду літаратурных перыядычных выданняў вылучаюцца. Прашу Фларыду Аляксандраўну аформіць мяне часовым чытачом бібліятэкі і выдаць на пару дзён два нумары “Полымя”.

— Калі ласка, — ахвотна згаджаецца яна, — але, прабачце, ці ёсць у вас з сабою грошы? За суткі адзін экзэмпляр каштуе 210 рублёў. Зразумейце, лічбы нам даводзяць “зверху”… Летась я павінна была аказаць паслуг на 325 тысяч рублёў. План на дзве тысячы перавыканала.

— А калі б “заваліла”?

— За невыкананне пазбаўляюць прагрэсіўкі на 20 працэнтаў.

— А як можна выканаць план, будучы ў чарговым адпачынку?

— Як, як… Няўжо не здагадваецеся? — бачна, мае пытанні суразмоўцы надакучылі. — Свае грошы закладваю. І так усе робяць.

Па дарозе дахаты ў думках аналізаваў прызнанні Фларыды Зайкоўскай. Так, развіццём платных паслуг сельскія ўстановы культуры займаюцца даўно. У бібліятэках аграгарадкоў ёсць камп’ютары, і спецыялісты за грошы набіраюць тэксты, раздрукоўваюць іх, шукаюць патрэбную інфармацыю ў электронных базах, робяць дыскетныя копіі, каляровыя ілюстрацыі, афармляюць рэфераты для школьнікаў і студэнтаў-завочнікаў, выдаюць літаратуру з камерцыйнага фонду і г.д. А як выканаць план паслуг такім невялікім бібліятэкам, як Рабавіцкая? Павышэннем іх якасці? Лёгка сказаць!

### Кніга — тавар?

Цяпер літаратурны працэс падпарадкоўваецца знакамітай формуле К. Маркса: “тавар — грошы — тавар”. Перш чым кніга з’явіцца ў краме ці бібліятэцы, пісьменнік вымушаны наведаць мноства арганізацый, вымаліць даведкі аб тым, што яны выкупяць яго будучую кнігу. Даведкі здаюцца ў выдавецтва, там складаюць каштарыс, іншыя фінансавыя дакументы. І толькі затым рукапіс запускаюць у вытворчасць. Але і на гэтым яго галаўны боль не канчаецца. Тыраж трэба рэалізаваць. Зноў тэлефанаванні, хаджэнні па пакутах. Бывае, што працэс выхаду зацягваецца на некалькі гадоў. Таму, каб твор хутчэй знайшоў свайго чытача, аўтар імкнецца папярэдне апублікаваць яго ў перыядычных выданнях. Але атрымліваецца, што, каб пазнаёміцца з імі, трэба плаціць. Так дыктуюць законы рыначнай эканомікі.

На мой погляд, гэтыя законы адвучваюць людзей чытаць, а значыць і думаць. Згадзіцеся, кніга — такая ж з’ява жыцця, як чалавек, яна таксама факт жывы, які гаворыць. І называць яе “таварам”, мякка кажучы, не зусім правільна. Народ без кнігі падобны на чалавека з завязанымі вачыма: ён не бачыць свету. Іван Мележ напамінаў: “Кнігі, як людзі: адны толькі дакрануцца да цябе, знікаюць назаўсёды, другія, сустрэўшыся выпадкова, уваходзяць у тваё жыццё і застаюцца ў ім”.

З гэтымі невясёлымі думкамі назаўтра я паехаў у Слаўгарад (былы Прапойск), верш якому некалі прысвяціў Канстанцін Сіманаў. Памятаеце, “…И город Пропойск Протрезвенском на радость всех жен назовем”. Гэтая зямля дала айчыннай літаратуры Міхася Стральцова, Кастуся Кірэенку, Віктара Ракава, Алеся Масарэнку, Паўла Вераб’ёва, іншых празаікаў і паэтаў.

Зайшоў да Алены Аляксеевай — начальніка фінансавага аддзела райвыканкама, завялі размову пра платныя паслугі ў ачагах культуры.

— Мы не даводзім ім планы, гэтым займаюцца іншыя структуры, — растлумачыла Алена Васільеўна, — але сам працэс вітаем. Бюджэт раёна на 80 працэнтаў датацыйны. Таму рады кожнаму рублю, атрыманаму ад пазабюджэтнай дзейнасці. Мы ведаем праблемы, імкнёмся па меры магчымасці вырашаць. Штогод папаўняем бібліятэчныя фонды, на гэта траціцца немала грошай. За 60 мільёнаў рублёў набылі бібліяўтобус. Дакладнай інфармацыяй, якая вас цікавіць, дэталёва валодае начальнік аддзела культуры, былая загадчыца бібліятэчнай сістэмы, але яна ў адпачынку за межамі раёна. Пагаварыце з намеснікам старшыні райвыканкама Брылёвай.

— Што ж гэта вы ўсе зацікавіліся платнымі паслугамі? — здзівілася Ніна Паўлаўна пасля знаёмства. — Іх памер вызначаўся зыходзячы з прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Гэта закон, і яго патрэбна выконваць. Даходы ад паслуг ідуць на развіццё клубаў і бібліятэк: набыццё тэхнікі, музычных інструментаў, сцэнічных касцюмаў, кніг. Хто не выконваў — пазбаўляўся прэміі. Неабходна вучыцца зарабляць грошы… У дзяржаўнай праграме на 2011 — 2015 гады такога раздзела няма. Але ж, я думаю, гэта не значыць, што платныя паслугі можна зварочваць. Яны будуць у рэгіянальных праграмах. Іх аб’ём варта нарошчваць. Аднак я згодна з вамі: трэба дакладна вымяраць, дзе і што мы павінны прадаваць бясплатна, а дзе зарабляць.

На пытанні, хто такім вымярэннем павінен займацца, ці можна адмяніць падаткі на даходы і, наогул, ці льга зняць плату з наведвальнікаў бібліятэк, мая суразмоўца адказала, што гэта не яе кампетэнцыя.

> *“Вядома, што мэта кожнай мадэрнізацыі — зніжэнне дзяржаўных расходаў, эканомія і беражлівасць бюджэтных сродкаў. Але пры ажыццяўленні гэтых працэсаў усё ж нельга забываць пра такія высокія катэгорыі, як духоўнасць, мараль, сумленне, інтэлект…*

### Штучныя працэнты

Паспрабаваў знайсці адказы на гэтыя і іншыя пытанні ў Мінску. Патэлефанаваў у абласную бібліятэку імя Пушкіна, папрасіўся на кароткую аўдыенцыю. Там доўга раіліся і сказалі перазваніць у канцы студзеня, маўляў, дужа заняты, прымаем справаздачы з раёнаў. Пазваніў і ў Нацыянальную бібліятэку. Там выдалі параду больш катэгарычную:

— Чытайце газету “Культура”. На яе старонках міністр дае адказы на ўсе пытанні. Што тычыцца бібліятэк, то можам адзначыць, што “подвижники есть”. Усё!

Паслухаўся парады, уважліва прачытаў усе матэрыялы “гарачай лініі”, у якой удзельнічаў Павел Латушка, які, дарэчы, шмат робіць для развіцця айчыннай культуры, яе мадэрнізацыі. Нельга не захапляцца яго змястоўнымі выступленнямі на добрай матчынай мове. Магчыма, неўзабаве па-беларуску пачнуць камунікаваць і ўсе яго падначаленыя.

Дык вось, у лістападзе Павел Паўлавіч сказаў наступнае: “Рашэнне аб платных паслугах — выключна ў кампетэнцыі Прэзідэнта краіны і ўрада. Мы адстойваем пазіцыю аб неэфектыўнасці давядзення платных паслуг насельніцтву. Гэта фактычна прыводзіць не да стымулявання заработку грошай, а хутчэй да працэсу тармажэння”. І далей: “На 2011 год урад даводзіць заданне не плануе. Станем укараняць новы нарматыў — забеспячэнне сацыяльнага стандарту”.

Сацыяльныя стандарты на розныя віды паслуг былі ўведзены восем гадоў таму. Цяпер яны закрануць культуру. Вядома, што мэта кожнай мадэрнізацыі — зніжэнне дзяржаўных расходаў, эканомія і беражлівасць бюджэтных сродкаў. Але пры ажыццяўленні гэтых працэсаў усё ж нельга забываць пра такія высокія катэгорыі, як духоўнасць, мараль, сумленне, інтэлект… “Без развітай духоўнай культуры няма дзяржавы”, — падкрэсліў А. Лукашэнка на Чацвёртым Усебеларускім народным сходзе.

Дык ці ўкараняецца сацыяльны стандарт? Якія першыя вынікі? Можа, знізілі планы платных паслуг? Звязаўся з дырэктарам ляхавіцкай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Ірынай Лагун.

— Пакуль дакладна нічога не ведаю, хоць на дварэ ўжо другая палова студзеня, — растлумачыла Ірына Іванаўна. — З Брэста ніякіх дакументаў не паступала. У нашым райфінаддзеле сказалі, што план павялічваецца на 14 працэнтаў да ўзроўню мінулага года. Ці гэта разлікі сацыяльнага стандарту, ці звычайнае планаванне ад дасягнутага — невядома. Карацей кажучы, трэба закасваць рукавы.

### Каго падманваем?

На маю думку, і сёлета становішча наўрад ці зменіцца. Неадэкватны рост заданняў на платных паслугах будзе працягвацца. Для пацвярджэння свайго прагнозу прывяду некалькі фактаў. Па выніках 2009 года рэальны заробак не вырас — гэта афіцыйная статыстыка, насельніцтва ў краіне зменшылася на 50 тыс. чалавек, а платныя паслугі павялічыліся ажно на 24 працэнты. Інфармацыі за мінулы год пакуль няма.

Намеснік старшыні пастаяннай Камісіі палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі Анатоль Глаз аднойчы агучваў гэту праблему ў Авальнай зале — падчас адказаў урада:

— Работнікі культуры ў вёсцы аддаюць на гэта частку свайго заробку, — браць жа ім няма з каго! Калі ўзяць у рукі пералік платных паслуг на месцах, можна знайсці такія “цуды” — чаго толькі не прыдумляюць людзі, каб выканаць тыя заданні. Самыя папулярныя кнігі пачалі за грошы даваць! Нават пасля вайны такога не было. Нашто нам такая бібліятэка сёння? Ну я разумею — плаціць грошы, калі хочаш за камп’ютарам папрацаваць, Інтэрнэтам скарыстацца, але за кнігі… Гэта абсурд!

Лепш не скажаш.

…Зноў успомніў Рабавіцкую сельскую бібліятэку. Насупраць яе — крама. Куды паварочваюць вяскоўцы? Здагадацца няцяжка.

**P.S.** *Тэма, узнятая ў гэтым артыкуле, не новая, але, як нам падаецца, надзвычай надзённая. Запрашаем чытачоў, асабліва работнікаў устаноў культуры, прыняць удзел у яе абмеркаванні.*

# Пра неабгрунтаваную зорнасць, апрабаваны сюжэт і паратунак… у літаратуры

**Пра ўсё гэта распавядае наш сённяшні суразмоўца, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2010 года Аляксандр Яфрэмаў, у працяг размовы пра кіно. Высокай дзяржаўнай узнагародай кінарэжысёр-пастаноўшчык уганараваны за стварэнне шматсерыйных тэлевізійных фільмаў ваенна-патрыятычнай тэматыкі "Снайпер. Зброя адплаты" і "Замах".**

Ірына ТУЛУПАВА



Фота БелТА

**— Аляксандр Васільевіч, зараз вельмі шмат вядзецца дыскусій пра неабходнасць і магчымасці стварэння нацыянальнага беларускага кіно. Якія рысы вы б у ім найперш вызначылі?**

— Ведаеце, неяк я размаўляў з Мікалаем Пінігіным, ён выказаў думку, што зроблены тут, у Беларусі, удалы твор мастацтва — ужо нацыянальны. Калі мастацкі твор яркі, таленавіты і пераканаўчы, калі зроблены тут, на гэтай зямлі і зрабілі яго людзі, якія тут жывуць, — гэта і ёсць нацыянальнае мастацтва. Мы размаўлялі з Пінігіным пра нацыянальную драматургію і разважалі, што трэба рабіць: альбо паказваць на сцэне толькі беларускую драматургію, альбо мець права паставіць і сусветныя шэдэўры. І неяк так прыйшлі да высновы, што калі мы паставім спектакль у нас і гэта будзе, прыкладам, Шэкспір, але задзейнічаем беларускіх артыстаў і на беларускай сцэне — атрымаем нацыянальны спектакль. Таму што вяршыні мастацтва павінны быць незвычайна высокія. Хаця б для таго, каб імкнуцца да іх, каб суадносіць сябе з гэтымі вяршынямі і праяўляць творчыя якасці, неабходныя не толькі самому творцу, але і таму, хто яго мастацтва ўспрымае. Не хачу сказаць, што вяршынь драматургіі ў Беларусі не існуе і няма твораў, якія б ім адпавядалі. Але іх не так шмат, як хацелася б. Яны не ўзнікаюць планава, па нейкай дырэктыве — яны альбо нараджаюцца, альбо не. І для гэтага неабходна вялікая колькасць кампанентаў…

**— Кажуць, кіно навучылася гаварыць — і яно перастала быць вялікім. На якім з этапаў развіцця кінамастацтва мы цяпер знаходзімся? Якія часы перажылі ўжо?**

— Зразумела, шмат змен адбылося, калі ў кіно паявілася гук. А пасля з'явілася тэлебачанне. І загаварылі, што са з'яўленнем тэлебачання кіно памрэ. А яно жыве і жыць будзе! Этапы станаўлення цягам гадоў былі самыя розныя. Тое, што мы цяпер перажываем, — тыпова не толькі для постсавецкай прасторы. І тое, што сусветны кінематограф знаходзіцца ў крызісе, таксама агульнавядома. Гэта, зразумела, не супакойвае, а наадварот, насцярожвае. Але, як мне падаецца, крызіс — з'ява часовая.

**— Чым жа гэты творчы крызіс выкліканы? Агульным эканамічным?**

— Ведаеце, хакейныя балельшчыкі ведаюць: быў час, калі лепшыя каманды — амерыканскія і канадскія — вырашылі пазбавіцца суперзорак для таго, каб як мага менш плаціць. Гэтая ідэя правалілася цягам усяго толькі двух сезонаў. Падобная ідэя блукала досыць доўга і ў Злучаных Штатах Амерыкі, у Галівудзе, дзе суперапладзіруемыя акцёры. Недзе ў 1980-х гадах яны пайшлі на аналагічны крок — здымаць кіно па-новаму. Паспрабавалі — і глядач перастаў хадзіць у кінатэатры. Вярнулі зорак!..

Але гэта вельмі доўгая размова. Вось, прыкладам, "Аватар" — надзвычай паспяховая карціна. Што яна з сябе ўяўляе? Апрабаваны, прычым, бездакорна апрабаваны сюжэт наконт асваення амерыканскага Поўдня амерыканскім Захадам. Памятаеце, калі здымалі кіно пра індзейцаў, былі ўім і "дрэнныя", хто губіў гэты надзіва прыгожы свет, дзе былі чырванаскурыя людзі і коні і былі тыя, хто абараняў індзейцаў. "Аватар" зроблены па той жа самай схеме. Толькі ў кадры не чырванаскурыя, а блакітнатварыя — жыхары іншых планет. Вытворцы вяртаюцца да апрабаваных сюжэтаў — толькі з новымі тэхнічнымі і фінансавымі сродкамі. І гэта спрацоўвае, жыве!

Але чаму я гавару пра амерыканскае кіно? Таму, што гэта самае паспяховае кіно ў свеце. У іх трэба вучыцца, вучыцца многаму. Яны ўкладваюць мільёны ў кіно і вяртаюць мільярды!

**— Аднак ці значыць, што высокабюджэтнае кіно абавязкова будзе паспяховым?**

— Не… Не! Я гаварыў пра "Аватара" — гэта абсалютны баявік. Вельмі паспяховы, які прынёс шмат грошай. А ці можам мы гаварыць пра такое амерыканскае кіно, як "Палёт над гняздом зязюлі", якое з'яўлялася бездакорным мастацкім шэдэўрам? Такога кіно цяпер няма. Мы перажываем час відовішчаў, масавага кіно, дзе ёсць прыгоды, вялікая колькасць падзей, дзе ёсць напружанне, наваротана столькі тэхнічных, камп'ютарных сродкаў…

Але маё перакананне такое: мы прыйдзем зноў да таго, да чаго павінны вярнуцца. Да нашай літаратуры. Славянскай, рускай, беларускай. Да літаратуры, якая гаварыла і гаворыць найперш пра душу, дух, пра чалавека.

А ў беларускай літаратуры ёсць аўтар, якога трэба здымаць усяго — Уладзімір Караткевіч. Гэта на ўсе часы! У яго творах прысутнічаюць надзіва багатая культура, патрыятызм, любоў да айчыны, неверагоднае веданне гісторыі і выключнае майстэрства драматурга. У яго сюжэты такія, якія не кожны прыдумае, і гэта ўсё насычана падзеямі, яркімі характарамі, гістарычнымі фактамі, містыкай!

**— Аднак Караткевіч — гэта наша класіка, якая вымагае жанру экранізацый, а яны цяпер знікаюць з вытворчасці.**

— Не, не знікаюць. Але гледзячы што экранізаваць. Бяруцца хутчэй за тое, што можна было б "друкаваць на факсе". Цяпер чамусьці "правальваюцца" Горкі, Чэхаў, Астроўскі… Але думаю, што гэта часова. Я спадзяюся на гэта. Тое, што канцэнтруе ў сабе Караткевіч, — мае ўсё. У ім найперш глыбіня славянскай літаратуры, і ёсць адказ на тыя запатрабаванні, якія глядач прад'яўляе сённяшнім фільмам: падзейнасць, яркая, захапляльная мастацкая вяршыня, якая інтрыгуе, заварожвае, містыфікуе і — садзейнічае нараджэнню кіно.

А што да самой вытворчасці, то… сярэднія студыі Галівуда, прыкладна роўныя па аб'ёмах вытворчасці "Беларусьфільму", робяць 8 — 10 карцін у год. З іх адна бюджэтная, за кошт якой яны розныя ваюць атрымаць прыбытак, адна — эксперыментальная, адна — дэбютная і гэтак далей. І ў нас таксама ёсць літаратура, якая патрабуе сур'ёзных укладанняў. Фільм па Караткевічу проста так за мільён, два мільёны здымаць немагчыма. Ён павінен быць настолькі пераканаўчы ў дробязях, наколькі пераканаўчы ў літаратуры.

**— Супрацоўніцтва на адной здымачнай пляцоўцы расійскіх і беларускіх артыстаў — справа неадназначная. Наколькі можа быць плённым абмен *практычным* вопытам, прыкладам, пры стварэнні вашых фільмаў, а не на сустрэчах падчас кінафестываляў?**

— Па сваім узроўні школы ў нас прыкладна аднолькавыя. Таленавіты чалавек роўны іншаму таленавітаму чалавеку. Але бывае, на жаль, так, што прыезджыя з Масквы артысты дэманструюць не заўсёды, мякка кажучы, абгрунтаваную "зорнасць". Увесь узровень іх "зорнасці" зводзіцца да неабгрунтаваных памеру прэтэнзій: бытавых, фінансавых. Але, з іншага боку, ёсць чаму і павучыцца. Калі, прыкладам, на здымачнай пляцоўцы працуе такі артыст, як Дзмітрый Пяўцоў, патрабаванні датычаць узроўню прафесіяналізму яго калег і самой групы. Таму што мала таго, што ён сам прафесіянал, і яго ўзроўню можна павучыцца многім і многім. І калі адбываецца кантакт падобнага роду, то ўзнікае атмасфера, якая была, прыкладам, пры здымках фільма "Снайпер". І беларускія, і расійскія артысты проста "купаліся" ў творчай аўры, ад разумення і магчымасці рабіць адну справу. У таленавітага чалавека заўсёды можна павучыцца, і ён заўсёды вучыцца сам!

**— Беларускі тэлефільм "Снайпер" стаў адным з самых папулярных серыяльных праектаў, ацэненых нават расійскім гледачом — ён паказваўся на Першым канале Расіі і сабраў каля экранаў вялікую аўдыторыю. Што ўдалося паказаць у фільме і якія моманты вы як рэжысёр убачылі, якія б можна было б узмацніць?**

— Прадстаўленыя на спецыяльную прэмію фільмы "Снайпер" і "Замах" — гэта тэлевізійны серыял. І я ганаруся тым, што ўдалося зняць іх не так, як мы заўважна бачым на экранах, дзе ў асноўным "галовы, якія гавораць", а як кіно. Гэта запатрабавала шмат сіл, энергіі, выдаткаў і маіх уласных, і групы. Мне здаецца, нам гэта ўдалося. Знятыя сродкамі кінематографа серыялы выглядаюць як кінатворы. А не як "мыльныя оперы". А правіць, каб нешта ўзмацніць, трэба было раней, да таго, як я пачаў здымаць.

**— Няхай глядач не ведае пра гэта?**

— Так.

## Universum



# Будуем вежу міру

Віка ТРЭНАС

**Разнастайнасць, шматлікасць, падзейнасць — як разабрацца ў хаосе сучаснай культуры? Найноўшая беларуская літаратура ў маім уяўленні вымяраецца не эстэтычнымі кірункамі і не пакаленнямі пісьменнікаў, а менавіта асобнымі творцамі. Прычым, такімі, якія здатныя арганізаваць культурную прастору, дзе б яны ні знаходзіліся. Пра рухавікоў літаратурнага працэсу і адмысловыя механізмы поспеху — сённяшняя гаворка.**

### Кактэйль з розных відаў мастацтва

Калі дасведчаны бармен змешвае самыя неверагодныя складнікі, каб атрымаць смачны экзатычны напой па замове, скажам, якога-небудзь гурмана, ён ведае, наколькі цяжка дагадзіць густам патрабавальных кліентаў. Галоўнае — не страціць пачуццё меры, інакш карыснае пітво вокамгненна ператворыцца ў атруту.

Так і з найноўшымі культурнымі практыкамі. Сучасныя творцы ў пошуку публікі адыходзяць ад мастацтва ў чыстым выглядзе: маўляў, мы можам не толькі пісаць добрыя вершы, але і спяваць, танчыць, маляваць, фатаграфаваць... Карацей, маладое пакаленне праяўляе свае таленты без якіх-кольвек абмежаванняў. І правільна робіць. Бо эпоха мультымедыйных тэхналогій не пакідае традыцыйным відам мастацтва — той жа літаратуры — ніякіх шанцаў. Пісьменнікі, музыкі і мастакі ўсё больш часу праводзяць у Сеціве. Віртуальны свет прыносіць ім тысячы рэальных кантактаў і магчымасцей, не кажучы ўжо пра электронныя публікацыі, мастацкія галерэі, онлайн-канферэнцыі і нават інтэрнэт-канцэрты.

Сучасны малады паэт засвойвае акцёрскае майстэрства, вывучае таямніцы слэму, праводзіць літаратурныя конкурсы, ставіць перфомансы па матывах сваіх тэкстаў... Усё гэта дзеля пашырэння кола чытачоў, якія, спешчаныя мас-медыя, рэдка бяруць у рукі "старую добрую" кнігу.

Галоўны прынцып у сінтэзе мастацтваў, як і ў змешванні добрага кактэйлю, — правільны падбор складнікаў. Каб выступленне не ператварылася ў фарс, а высокая паэзія — у няўежныя рыфмаванкі.

### Багдановіч, hand-made і тое, пра што нельга забыць

Беларуская культурная сітуацыя — не выключэнне. Хто як можа шукае шлях да сэрца гледача. Суполка "Літаратурнае прадмесце" заснавала антыгламурную літаратурную прэмію "Блакітны Свін". Паэтычны тэатр Арт.С. абвясціў гэты год Годам Вогненнага Вожыка. А малады супрацоўнік музея Максіма Багдановіча творца-універсал Міхась Бараноўскі прыдумаў праект "Вежа міру", які аб'ядноўвае дзясяткі пісьменнікаў, музыкаў, мастакоў, дызайнераў. Вечарыны ў музеі праходзяць штомесяц.

На фэсце "Казкі новай зімы" кожны ахвотны мог на майстар-класах зрабіць сваімі рукамі сувеніры, упрыгожанні, цацкі. Цягам трох дзён былі вязанне на прутках і шыдэлкам, вышыўка, арыгамі, біжутэрыя, сучаснае hand-made-мастацтва... Якое дачыненне гэта мае да літаратуры? Наведвальнасць музея павышаецца ў некалькі разоў!

# Зялёны астравок пасярод планеты

**Навукоўцы сцвярджаюць, што ў якуцкай мове ёсць не адна сотня найменняў снегу. Што ж, у гэтым нічога дзіўнага. Якуты, як вядома, жывуць там, дзе палярная зіма, сцюжы і марозы, завіруха і снежныя бураны, таму і снег бывае з рознымі адценнямі, колерамі. У нас, беларусаў, зразумела, падобных зім не бывае, таму ў мове і няшмат такіх назваў. Затое мы можам пахваліцца іншым.**

Алесь МАРЦІНОВІЧ

Нашы паэты (празаікі ў меншай ступені) надзіва ўважлівыя да эпітэтаў, а таму, калі чытаеш творы таго ці іншага аўтара, дзіву даешся: якіх толькі азначэнняў снегу не напаткаеш! Ён можа быць не толькі традыцыйна белы, а і звонкі, зярністы, круты, лагодны. І нават наздраваты, пачарсцвелы, шалёны. Толькі дзіву даешся, наколькі багатая фантазія ў паэтаў. Хоць, хутчэй за ўсё, і не столькі фантазія, колькі зайздроснае ўменне прыкмеціць, заўважыць, адчуць, перадаць тое, на што простыя смяротны і не звяртае ўвагі, што праходзіць міма яго напагата позірку.

Ва ўсякім разе, у "Слоўніку эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы" я налічыў каля 200 эпітэтаў, якія маюць дачыненне да азначэння снегу. Але ж "Слоўнік..." пабачыў свет яшчэ ў 1988 годзе. Няма сумнення, што за гады, якія прайшлі, Міхасём Пазняковым, а менавіта ён аўтар згаданай кнігі, адшуканыя і новыя эпітэты, што стасуюцца да слова "снег". У гэтым, дарэчы, можна будзе хутка ўпэўніцца, бо рыхтуецца да друку чарговае выданне "Слоўніка...", гэтым разам ужо ў двух тамах. Калі ў першым выданні было больш як 400 назоўнікаў, да якіх падабраны эпітэты, то цяпер іх звыш 450. І няма сумнення, што двухтомнік стане настольнай кнігай для многіх, хто любіць і шануе сваю родную беларускую мову.

Нямала на Беларусі вёсак, якія маюць назву Заброддзе. Ды тая, што ў Быхаўскім раёне, для М. Пазнякова самая дарагая на свеце. У пэўнай ступені яна блізкая і кожнаму, хто далучаецца да ягонай паэзіі, прапускаючы яе праз сваё сэрца.

За ўсім тым, што прамаўляецца М. Пазняковым, прысутнічае традыцыйнасць матываў. Ды гэтага не заўважаеш. Усё ўспрымаеш нібыта ўпершыню. У тваёй душы нараджаецца адчуванне, блізкае таму, якое перажываеш тады, калі сустракаешся з любімай жанчынай. Разумееш, што нямала іншых, прыгожых і вабных. Нават такія ёсць, якія тытулаваны як розныя міс. Ды што табе да іх, калі ёсць у цябе адна-адзіная, а таму і непаўторная, ні з кім не параўнальная.

Так успрымаеш і вершы М. Пазнякова, у якіх гучыць замілаванне зямлёй маленства. Гэтая ж тэма ў творчасці М. Пазнякова-паэта ці не галоўная. На адным дыханні прамаўляе. Як на споведзі. А ў такім выпадку нельга маніць не тое што зместам. Нават самой інтанацыяй нельга маніць:

*Радзіма, малая радзіма —*
*А вёсачка ўсцяж нелюдзіма.*
*Асінай, хмызом зарастае*
*Калыска мая залатая.*

*Удзячны штораз невымоўна,*
*Нібы да бабулі шаноўнай,*
*Лячу хоць на некалькі дзён*
*Штогод да яе на паклон.*

Гэта цяпер ягонае Заброддзе нелюдзімае. Засталося ўсяго восем хат, дый то жывуць усяго ў палове з іх. У пасляваенны час і пазней яна была людная, вясёлай. На людзей працавітых і на дзяцей багатай. Вялікая была сям'я Пазняковых. Адметная ўжо тым, што па сутнасці склалася з дзвюх сем'яў. У бацькі М. Пазнякова ў 1944 годзе ад тыфу памерла жонка, і яго, франтавіка, пасля шпіталя адправілі дахаты для выхавання траіх дзяцей — балазе Магілёўшчына ўжо была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Па вяртанні дамоў ён пазнаёміўся з жанчынай, муж якой загінуў на фронце, і яна засталася на руках з двума дзецьмі. Павел Кузьміч і Марыя Еўдакімаўна пажаніліся. У новай сям'і нарадзілася яшчэ шасцёра дзяцей. Міхась сярод іх стаў чацвёртым.

Прага да творчасці, любоў да літаратуры ў яго, несумненна, ад бацькоў. У аўтабіяграфіі "І няма нічога даражэй" Міхась Паўлавіч прызнаецца: "Тата быў цікавым апавядальнікам, часта экспромтам рыфмаваў свае назіранні, ведаў шмат вершаў, асабліва рускіх і беларускіх класікаў... А як ён спяваў, колькі песень ведаў!.. Мама наша, — працягвае М. Пазнякоў, — была не менш адоранай... А якія палотны, ручнікі, пакрывалы ткала яна прама ў хаце! А колькі паданняў, легенд, цікавых гісторый і прыгод расказвала, зачароўваючы імі!" Дый блізкія сваякі належалі да тых вясковых людзей, якія не адной працай жывуць. У Глухскай жа сярэдняй школе (перад гэтым скончыў пачатковую ў роднай вёсцы) "настаўніца рускай мовы і літаратуры Роза Сямёнаўна Нікіфарава далучыла да паэзіі, падштурхнула да заняткаў творчасцю".

Пісаць вершы М. Пазнякоў пачаў рана, яшчэ ў школьныя


Фота Кастуся Дробава

гады. "Замахнуўся" нават на паэму, у якой расказаў пра трагічны лёс жыхароў суседняй вёскі Студзёнкі падчас нямецкай акупацыі. Канечне, гэта было на ўзроўні вучнёўства. Па-сапраўднаму паэтычная ягоная душа ўбірала ў сябе шмат чаго, што цягам часу вылілася ў крыштальна чыстыя радкі. Як у вершы "Эцюд маленства":

*Я ў маленстве*
*Любіў завіруху,*
*Забіраўся ва ўтульны куток,*
*Пазіраў навакола і слухаў*
*Чыстазвонны яе гаварок.*
*Падкрадаўся мароз*
*паступова,*
*Сіні вечар спускаўся на двор,*
*З неба месяц*
*мядзянай падковай*
*Выкрасаў серабро*
*Белых зор.*

Увогуле, біяграфія М. Пазнякова па-свойму адметная. Даводзілася яму і рабочым быць на заводзе, і настаўнічаць. Але настойліва шоў да сваёй мэты, сутнасць якой заключалася ў тым, каб працаваць там, да чаго душа ляжыць. Дый дзе можна найлепей раскрыць сябе. Быў навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі, стаяў ля вытокаў і з'яўляўся першым дырэктарам Літаратурнага музея імя Максіма Багдановіча, працаваў галоўным рэдактарам выдавецтва "Юнацтва", часопісаў "Вожык" і "Нёман", намеснікам дырэктара Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва". Цяпер сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Мінскай гарадской арганізацыі СПБ.

Ён заўсёды знаходзіў час, каб пісаць творы. Выдаў ні многа, ні мала, а каля 30 кніг самых розных жанраў. Самому М. Пазнякову, безумоўна, усе яны аднолькава дарагія і любімыя, як і клапатліваму бацьку ягоныя дзеці.

Яго кнігі не залежваюцца ні ў кнігарнях, ні на паліцах бібліятэк. Лепшыя ж творы, адрасаваныя дзецям, уключаны ў шматлікія хрэстаматыі, калектыўныя зборнікі, падручнікі. У агульнай колькасці набіраецца 110 (!) розных выданняў. Прытым, ёсць такія падручнікі, якія літаральна "перасыпаны" ягонымі вершамі, а таксама творамі іншых жанраў, у напісанні якіх М. Пазнякоў вялікі майстар: скорагаворкамі, пацешкамі, небыліцамі, смяшынкамі, шарадамі, метаграмамі, анаграмамі, загадкамі... Дарэчы, у сваёй кнізе "Дзіўныя "блізняты" ён упершыню ў беларускай літаратуры распрацаваў загадкі на міжмоўныя амонімы і антонімы. Адзін пералік дзіцячых кніг, што выйшлі з-пад яго пяра, зойме шмат месца: "Побач з татам", "Тры чарадзеі", "Ехаў поўны воз дзівос", "Дзівосны свет", "Шые вожык кажушок", "Дарынка-весялінка", "Загадкі з поля і градкі", "У родным краі" і іншыя.

Нядаўна пабачылі свет яшчэ дзве кнігі М. Пазнякова — "Паміж радасцю і болем" і "Залаты ключык духоўнасці", лішні раз засведчыўшы шматграннасць ягонага таленту. У першай з іх змешчаны апавяданні, эсэ, абразкі, гумар. Другая пад сваёй вокладкай сабрала выбраныя літаратурна-крытычныя, літаратуразнаўчыя, культуралагічныя, мовазнаўчыя і публіцыстычныя артыкулы, рэцэнзіі, выступленні, інтэрв'ю.

"З любоўю і шчыра" — так назваў прадмову да зборніка "Залаты ключык духоўнасці" доктар філалагічных навук, акадэмік НАН Беларусі Уладзімір Гніламёдаў. Падагульняючы свае разважанні, Уладзімір Васільевіч зазначае, што М. Пазнякоў "піша, як дыша, проста, зычліва, патрабавальна. Пазбягае перабольшванняў у ацэнках. У гэтым ёсць нешта асабістае, нават прыватнае, так сказаць, "фірменны" почырк аўтара. Важна пры гэтым, што не губляецца адчуванне галоўнай мэты літаратуры — як яе фармулюе для сябе сам аўтар: "Абуджаць у чалавеку чалавечае".

Абуджаць у чалавеку чалавечае — гэта і сэнс усёй творчасці М. Пазнякова. Такое памкненне ідзе не толькі ад высокага ўсведамлення ім свайго творчага і грамадзянскага абавязку. Вытокі падобнага пастулата трэба шукаць і ў той высокай маральнасці, што ў маленстве і юнацтве панавала ў ягонай сям'і. Дый у тым трывалым народным ладзе жыцця, які ўвабраў ён у сябе. Адсюль і ўсведамленне таго, што выказаў назвай адной са сваіх "дарослых" паэтычных кніг — "Святое правіла...": "У шчасця правіла святое: // Дарыць і адчуваць свята".

Згадваючы родны куток, Міхась Паўлавіч прызнаецца: "...Вёска, дзе ў мае школьныя гады ўсё звінела, цвіло, кіпела,ператварылася ў ціхі зялёны астравок пасярод жытнёвых палеткаў". Ды гэты "ціхі зялёны астравок" вельмі дарагі яму. Ён пастаянна і нязменна бавіць да сябе. Кліча сваімі вокнамі і бацькоўская хата. Балазе, ужо чатырнаццаць гадоў вуглы яе не астываюць: з вясны да позняй восені ў ёй гаспадарыць старэйшая сястра М. Пазнякова Валянціна Паўлаўна.

Надзіва дакладна сказаў выдатны беларускі паэт Мікола Федзюковіч: "Зямля — магніт". Але найперш гэтым магнітам для кожнага з нас з'яўляецца куток маленства. Малой радзімай яго прынята называць. У дачыненні ж да М. Пазнякова правільным будзе сказаць, што ягоная творчасць, дый жыццё ў цэлым — гэта свайго роду зялёны астравок пасярод планеты. Планета ж гэтая асаблівая. Назва яе — Літаратура. Адным з найвядомейшых жыхароў яе і з'яўляецца Міхась Пазнякоў, лаўрэат Літаратурных прэмій імя Петруся Броўкі і Янкі Маўра, прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і іншых узнагарод.

# Падарожжа па часе і прасторы

Багдан БУЙСКІ

**Пэўна, гэта была самая незвычайная прэзентацыя з усіх, якія калі-небудзь праводзіліся ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Пачалася яна не з прамоў, а з відовішча.**

На вачах у прысутных разгорталася геаграфічная карта, на ёй вылучалася нейкая краіна, і зала раптам пераносілася ў Вялікабрытанію, Польшчу, Украіну, нават праз акіян — у ЗША... Са сцэны гучалі вершы на розных мовах, а пасля — і ў перакладзе на беларускую. Літаратурнае падарожжа ў прасторы, падчас якога прысутныя "наведалі" 30 краін свету, раптам ператварылася ў падарожжа па эпохах. Пасля герояў Уільяма Шэкспіра ў сярэднявечных строях на сцэне з'явіліся герой Роберта Бёрнса ў кілце. Была прадстаўлена творчасць Адама Міцкевіча і Міколы Гусоўскага.

Яркі калейдаскоп краін, эпох, вялікіх імёнаў. Экскурс у гісторыю сусветнай літаратуры? Зусім не. Проста — прызнанне ў любові да выдатнага беларускага перакладчыка Язэпа Семяжона, паліглота, паэта з вялікай літары. Ён стаў для беларусаў сапраўдным медыумам, які беражліва пераносіў думкі і словы вялікіх аўтараў, сказаныя на іншых мовах, на родную беларускую. Прычым, ва ўсіх яго перакладах існасць арыгінала захоўвалася — і вобразнасць, і рытм, і ўнутраная мелодыка верша. "Пан Тадэвуш" Адама Міцкевіча, "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага, "Кароль Лір" і "Утаймаванне свавольніцы" Уільяма Шэкспіра...

Але ў цэнтры прэзентацыі, падрыхтаванай супрацоўнікамі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, апынулася нават не постаць выдатнага творцы, а кніга выдавецтва "Беларуская навука" — "Паэт-перакладчык Язэп Семяжон", — якая зусім нядаўна з'явілася на кніжных паліцах айчынных кнігарняў. Аўтар кнігі — Ірына Лапцёнак, кандыдат філалагічных навук, намеснік дырэктара Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Кнігу і аўтара пасля тэатральна-лірычнай часткі прадставіў прысутным вядучы мерапрыемства, перакладчык, навуковец Міхась Кенька. Цікавасць прысутных да выдання стала тым большай, што яго ўхвалілі спецыялісты, запрошаныя на прэзентацыю дзеячы айчыннай навукі і культуры — член-карэспандэнт Акадэміі навук Міхась Мушынскі, прафесар Вячаслаў Рагойша, літаратуразнаўцы Галіна Адамовіч і Анатоль Верабей, крытык Леанід Казыра. Выступала ў той дзень таксама захавальніца архіва пісьменніка Наталля Семяжонава.

# Каралішчавічы, лес...

Алесь ЖУК

**Упершыню ў Дом творчасці пісьменнікаў "Каралішчавічы" патрапіў, будучы студэнтам, у 1970 годзе, дзесьці ў канцы лютага ці на пачатку сакавіка. З Юркам Голубам пражылі мы ў гасцінным драўляным дамку два тыдні. Здарылася так, што на тую зіму я застаўся бяздомным пасля вяртання з вёскі, з пераддыпломнай практыкі. Жыў "зайцам" у інтэрнатах то на Паркавай магістралі, то на Свярдлова, дзе Рыгор Семашкевіч, які пасля жаніцьбы пасяліўся на прыватнай кватэры, трымаў за сабой месца.**

"Зайцавалі" мы весела, бо падабралі да сябе ў пакой і Міхася Стральцова, які на той час пераждываў не лепшыя часіны ў сваім жыцці. Аднак з надыходам вясны набліжалася і абарона дыплома, трэба было пісаць работу. Вось тады мы з Юркам і ўспомнілі, што ходзім у маладых пісьменніках, а маладым у міжсезонне даюць бясплатныя пуцёўкі ў Каралішчавічы.

У Саюзе пісьменнікаў на Энгельса, 9, былым "кубаўскім" доме сакратар Саюза пісьменнікаў Іван Пятровіч Шамякін учыніў на нашых заявах адну рэзалюцыю на дваіх:

"Дазволіць паэтам Голубу і Жуку пуцёўкі ў дом творчасці тэрмінам на два тыдні".

Падарыла "Каралішчавічы" Саюзу пісьменнікаў Беларусі кіраўніцтва рэспублікі. Пабудаваны гэты лясны ўтульны двухпавярховы дамок быў палоннымі немцамі як паляўнічая дача, распараджаўся якой Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР. Ад горада на той час "Каралішчавічы" былі кіламетраў за сорак, і дзічыны там хапала. Ды яшчэ і ў сямідзясятыя ў каралішчавіцкім лесе можна было сустрэць і ласёў, і дзікоў. Перастаў домік быць паляўнічай дачай пасля таго, як старшыня прэзідыума Нічыпар Наталевіч патрапіў у няміласць і быў вызвалены ад пасады, якую займаў.

У тыя пасляваенныя гады для нешматлікага Саюза пісьменнікаў гэта быў сапраўдны падарунак. Летам у "Каралішчавічы" можна было прыехаць разам з дзецьмі, ды і разваротлівыя кіраўнікі тагачаснага Літфонду ўмелі клапаціцца пра тое, каб болей-меней накарміць пісьменнікаў, здабывалі не толькі бочкі з селядцамі, а нават і япрычка з суседняга калгаса. Мае аднагодкі і цяпер з цеплынёю ўспамінаюць тыя каралішчавіцкія наведванні, памятаюць, як на прагаліне перад будынкам вечарамі распальваў вогнішча Міхась Лынькоў і частаваў дзетвару цукеркамі. Прыязджаў у "Каралішчавічы" папрацаваць і пахадзіць па лесе Якуб Колас.

У час майго першага наведвання пра гэта сведчылі мемарыяльная дошка на будынку і старая яліна па дарозе ў сталоўку, лавачка пад ёй, на якой Якуб Колас любіў адпачываць. Усё гэта было абгароджана тоўстым дэкаратыўным ланцугом.

Калі стаў членам Саюза пісьменнікаў, не меў асабліва часу ездзіць у "Каралішчавічы", ды і патрэбы такой не было, і пацясняць старэйшых пісьменнікаў, якія лічылі абавязковым пабыць у Доме творчасці, і адмовіць якім у пуцёўцы вясной, летам і напачатку восені было проста немагчыма. Нават калі адкрыліся магчымасці набываць пуцёўкі ў дамы творчасці ў Кактэбель, Дубулты, Гагры, а потым і ў Піцунду, старэйшыя пісьменнікі ўсё роўна ехалі ў Каралішчавічы. Тут у іх было сваё кола, свае зацятыя пайдынкі ў більярд, ды і ўнукаў таксама можна было вывезці на прыроду: акрамя галоўнага корпуса да гэтага часу было пабудавана некалькі летніх фінскіх домікаў.

Яны нават мелі і ўласныя імёны — тых, хто займаў іх улетку.

Аднойчы здарылася пабыць мне ў Каралішчавічах дзесьці ў верасні. Надвор'е было цудоўнае, ды і кантынгент, як гаворыцца, для мяне ўражлівы. З акна майго пакойчыка на верандзе можна было пабачыць, як выходзіў на прагулянку Ніл Гілевіч, з дыхтоўным кіем, велічны, няспешны, а следам з ім выбіраўся з арэхавым кіёчкам Вячаслаў Адамчык. Ён кіраваўся ў лес за шашу, дзе можна сустрэць і пагладзець на лася, якога аднойчы Вячаслаў Уладзіміравіч хацеў напалохаць:



Фота Якуба Коласа. прадастаўлена Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем

махнуў кіёчкам і паспрабаваў ступіць да звера. У адказ лось нагнуў галаву і грабянуў зямлю капытом. Давялося Вячаславу Уладзіміравічу спачатку адступаць, а потым, азіраючыся, уцякаць з лесу. Расказваў мне пра гэта Вячаслаў Уладзіміравіч з нейкай гарэзлівай хлапчукоўскай весялосцю, пабліскваючы залатым зубком. У тую восень ён пісаў "Чужую бацькаўшчыну". Размашыста, таксама з кіем, выходжваў свае кіламетры Сяргей Грахоўскі. З Сяргеем Іванавічам мне адвячоркамі даводзілася прагульвацца і няспешна. Ён расказваў пра перыпетыі свайго жыцця, пра сяброў-пісьменнікаў, рэпрэсіраваных і знішчаных, пра сваю дружбу з братамі Шашалевічамі. Тады былыя вязні ГУЛАГа не былі ўпэўнены, што дажывуць да таго часу, калі пра тое можна будзе напісаць. Сяргей Іванавіч дажыў і напісаў. Часам атрымоўваліся і прагулянкі агульнай кампаніяй. Тады былі суцэльныя жартачкі, вясёлыя расказы пра амаль неверагодныя прыгоды з пісьменніцкага жыцця.

Сведчаннем таго, што гэтыя расказы не чыстыя выдумкі, быў і выпадак, які перажылі мы з Юркам Голубам у сваё першае наведванне Каралішчавіч. У той час там жыў Піліп Сямёнавіч Пестрак, прыехаў ён надвячоркам. Яго ўжо з нецярпеннем чакаў Васіль Бурносаў. Вечарам яны пачалі адзначаць прыезд Піліпа Сямёнавіча. Адзначалі грунтоўна, амаль ці не да ранку. Пакой Піліпа Сямёнавіча быў праз сценку з пакоем Юркі. Таму міжволі давялося чуць, як і спрачаліся яны, а потым і песні спявалі, і нават пускаліся ў скокі. А ў сталоўцы мы сядзелі за адным сталом з Пестраком, насупраць яго. Называў ён нас абагулена — філфакі. Таго ранку Піліп Сямёнавіч у сталоўку не прыйшоў. Прыйшоў Бурносаў, нешта крыху пакляваў сам і ў талерцы, накрытай другою талеркаю, панёс сняданак у пакой Піліпу Сямёнавічу. Сам Пестрак прыйшоў толькі на абед. Тут трэба сказаць, што якраз у гэты час на старонках "ЛіМа" ішла вельмі вострая дыскусія, у самым разгары была непрымірымая спрэчка Піліпа Пестрака і Уладзіміра Карпава — хто з іх сапраўдны раманіст, а хто не.

Піліп Сямёнавіч павітаўся, сеў і ў чаканні стравы вырашыў патлумачыць нам прычыну сваёй ранішняй адсутнасці.

— Ведаеце што, філфакі, я сёння ўсю ноч чытаў раман Карпава. Які жах! Дасюль галава аж трашчыць!

Не ведаю, як толькі мы ўтрымаліся ад рогату і не спаўзлі пад стол, потым доўга яшчэ жартавалі пры адпаведнай нагодзе: а ці не пайсці нам "пачытаць Карпава".

Але сапраўдныя мае Каралішчавічы пачаліся пасля таго, як я адкрыў іх для сябе зімою, дзесьці напрыканцы лютага — пачатку сакавіка. Тады яшчэ зімою ў Стайках трэніраваліся лыжнікі і па каралішчавіцкім лесе імі былі накатаны шматкіламетровыя лыжні, а на іх меліся крутыя пагоркі, не толькі роўныя трасы. І жывая была яшчэ традыцыя старэйшых пісьменнікаў хадзіць на лыжах, аматарам якіх быў той жа Грахоўскі, Міколу Паўлавіча Лобана памятаю на лыжах, не кажучы пра таго ж Бураўкіна і іншых маладзейшых. Ды тады яшчэ і ў самім Доме творчасці быў запас лыжаў, праўда старога веку, з мяккімі мацаваннямі. Таму сапраўдныя аматары прывозілі лыжы з дому.

І цяпер успамінаю тыя каралішчавіцкія лыжы як нешта самае светлае ў сваім жыцці, як коней дзяцінства, на якіх мы хлапчукамі ляталі па палявых дарогах. І самыя яркія — гэта начныя праходкі на лыжах. Поўня, відно, як удзень, але ж не параўнаеш дзённае святло з месячным. Марозік. Лёгенькі іней на галінках. Цішыня і віднота, і ты адзін, і лес, і снег. Марозная паветра балюча-прыемна поўніць грудзі, а калі ўніз з пагорка — нешта сваё шэпча на вуха вецер.

У зімовыя вечары неяк асабліва цёпла і ўтульна было ў драўляным доміку, павявала цяплом вясковае хаты. У холе другога паверха стаялі паўз сцены канапы, крэслы, на стале вялікі электрычны самавар. У гэтым холе традыцыйна збіраліся паглядзець праграму "Час" амаль усе насельнікі. Была такая завядзёнка — абавязкова глядзець праграму "Час", а пасля піць чай і проста гаварыць ці слухаць цікавых людзей, да прыкладу, акадэміка Турбіна.

Прэстыжна было прыязджаць у Каралішчавічы, калі былі яны яшчэ ў сіле.

Пабудавалі лазню, у якую пісьменнікі прыязджалі з Мінска. Ды і працавалася там добра, калі прыязджаеш на пару тыдняў і яшчэ адпачываеш на адзіноце.

Аднак час і прагрэс рабілі сваю справу. Усё больш і больш прывабнымі пісьменнікаў сучасныя камфортныя Дамы творчасці, ды і ў нас пабудавалі падобны Дом творчасці — "Іслач". Як гаварылася, усесаюзнага кшталту, хаця вялікага наплыву адпачынннікаў з братніх рэспублік не атрымалася. Масква надалей адмаўлялася фінансаваць Каралішчавічы. А з пачаткам будаўніцтва новага Дома творчасці пачаўся заняпад старога. На пасаду дырэктара траплялі выпадковыя людзі, перастала працаваць лазня, пачаў разбягацца штат.

У апошні раз я быў у Каралішчавічах ці не ў апошнюю зіму іхняга існавання. Там ужо было пустэльна, здаецца, прыехалі толькі Рыгор Няхай, Авяр'ян Дзеружынскі, магчыма, Сяргей Грахоўскі. І Мікола Улашчык. Калі я спытаўся ў Мікалая Мікалаевіча, чаму ён тут, а не ў той жа "Іслачы", ён патлумачыў, што якраз піша кнігу-даследаванне пра сваю родную вёску Віцкаўшчына, і тут яму больш імпануе працаваць.

З усяго штату і засталося толькі што сястра-гаспадыня Данута ды малады вусаты мужчына-кухар. Ён сам калоў дровы, распальваў пліту, падаваў нам на стол, мыў посуд. Аднак у будынку было напалена, працаваць было можна, і я дасядзеў да канца тэрміну, хаця лыжы для мяне ў Каралішчавічах былі скончаны: спартсмены цяпер ужо трэніраваліся ў Раўбічах, давялося самому накатаць невялікую лыжню ўкруг доміка па лесе, але гэта было ўжо зусім не тое.

Цяпер на тэрыторыі былога Дома творчасці працуе новы, сучасны дом адпачынку "На ростанях", драўляны двухпавярховы домік з мемарыяльнаю дошкаю захаваўся, у ім нават выдзелены два пакойчыкі пад музейную экспазіцыю, прысвечаную Якубу Коласу.

***На здымку:** Якуб Колас чытае свае творы пісьменнікам. (Каралішчавічы, 1952 год).*

# Беларуская мова? З задавальненнем!

Дзмітрый ПАЎЛАВЕЦ, дацэнт кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі ГДУ імя Ф. Скарыны

Такую арыгінальную назву дала свайму падручніку для замежных навучэнцаў, якія жадаюць вывучаць нашу мову, дацэнт кафедры сучаснай беларускай мовы БДУ кандыдат філалагічных навук Таццяна Расціславаўна Рамза. Першае ўражанне, якое гэтая кніга на мяне зрабіла, я б ахарактарызаваў адным словам: "Нарэшце!". Гэта тое, чаго даўно ўжо чакалі. Аўтар паставіла сабе на мэце прапанаваць замежнаму чытачу шматфарбны, цікавы і адметны вобраз беларускай мовы, яе падабенства ў некаторых формах з нямецкай. Гэтая кніга актуальна сёння, бо Еўрапейскі Саюз і Беларусь не толькі суседзі, але і партнёры, а для гэтага патрабуецца ўзаемаразуменне, знаёмства з культурнымі традыцыямі адно аднаго, што немагчыма без ведання мовы. У кнізе абагульнены асабісты дзесяцігадовы досвед працы выкладчыцы з замежнымі студэнтамі БДУ і слухачамі Летняй школы беларусістыкі.

Акрэсленыя задачы рэалізуюцца ў лагічна пабудаваных параграфах, раздзелах, уроках. Увесь матэрыял кнігі аб'яднаны ў два курсы — уводна-фанетычны і асноўны. Ва ўводна-фанетычным пададзена як агульная характарыстыка гукавой сістэмы нашай мовы, так і адметнасці вымаўлення асобных зычных і галосных гукаў. Дадатным з'яўляецца і тое, што гэты курс аўдыраваны на электронным носьбіце і можа выкарыстоўвацца для самастойнага навучання і замацавання засвоенага матэрыялу.

Заняткі асноўнага курса паглыбляюць веды, набытыя на папярэднім этапе, а таксама садзейнічаюць засваенню лексічнага мінімуму па базавых тэмах (моўны этыкет, поры года, сям'я, харчаванне, жыллё, пошта, Інтэрнэт, пакупкі, адпачынак і інш.). Падабаецца простая і адначасова рацыянальная кампаноўка граматычнага матэрыялу ў табліцах-схемах з кароткімі каментарыямі. Такі падручнік сёння неабходны, таму што за межамі Беларусі ёсць зацікаўленасць у вывучэнні нашай мовы ва ўніверсітэтах Венгрыі, Германіі, Польшчы, Украіны, Сербіі, Славакіі. На жаль, Міністэрства адукацыі не надае гэтай справе належнай увагі. А гэта ж добрая нагода для пашырэння ведаў пра нашу Радзіму, яе гісторыю, культуру за мяжой. Калісьці існавала Летняя школа беларусістаў пры БДУ, займаца ў якой было шмат ахвотнікаў, аднак яна не функцыянуе з 1999 года. А вось нашы суседзі — расіяне, украінцы, палякі — не шкадуюць сродкаў для такой працы, яны зацікаўленыя ў прэзентацыі сваёй мовы.

Гэта па-сучаснаму вытанчанае і з густам аздобленае выданне. У канцы пададзены мастацкія тэксты для чытання з глосамі, у якіх тлумачацца асобныя словы, змешчаны зводныя граматычныя табліцы. Несумненна, што пасяховай выпрацоўцы моўных навыкаў, самастойнаму навучанню будзе спрыяць і электронны дадатак з тэкстамі і дыялогамі.

Звяртаючыся да карыстальнікаў, Таццяна Расціславаўна піша: "Спадзяюся, што дапаможнік, які вы зараз трымаеце ў сваіх руках, развеяў вашы апошнія сумненні: *Беларуская мова? Вучыць ці не вучыць?*... Ваш адказ: *Вядома , вучыць! І толькі — з задавальненнем!!!*". Лепш за аўтарку і не скажаш. То будзем ёй шчыра ўдзячныя за зробленае і прыкладзём усе намаганні, каб наша мова пачувала сабе годна ў свеце.

# Паэзія




***Год таму, 23 студзеня, траскучым марозным днём не стала майго бацькі — Уладзіміра Антонавіча Марука...***

***Не стала Паэта, што з такой адданай сыноўняй любоўю пісаў пра бацькоўскую хату, родную Ганцаўшчыну і імклівую рачулку Начу. Паэта, што любіў і шанаваў роднае слова і так аддана, але ў той жа час вельмі сціпла пранёс яго праз усё жыццё. Такое нялёгкае і супярэчлівае жыццё сапраўднага Паэта...***

***Не стала Чалавека. Чалавека, з якім было прыемна сябраваць, з якім, як зазначыў яго сябра Алесь Пісьмянкоў, было прыемна нават памаўчаць. Хочацца верыць, што сябры сустрэнуцца там, на зорным небасхіле, каб ужо не расстацца ніколі. Не стала Чалавека, часам далікатнага і памяркоўнага, але ў той жа час чалавека, які цвёрда крочыў да сваіх мэт. Не стала Чалавека, які сапраўды любіў сваю работу і ціха ганарыўся ёй.***

***Не стала Паэта і Чалавека... А ў мяне не стала Бацькі...***

***Вераніка МАРУК***

* * *

*Праменьчык зорны цэліць проста ў скронь.*
*Усе,*
*што я цябе чакаю,*
*ночы*
*Ляціць сняжынка страхам на далонь,*
*Ды ўжо тваё вясною пахнуць вочы.*

*Ужо зялёны колер пасвятлеў*
*У елкі,*
*што з-пад снегу выглядае,*
*І верабей пахаджвае,*
*як леў,*
*Як быццам свет яму і спагадае.*

*А свет глядзіць услед тваім вачам,*
*Услед табе,*
*прытомленай зімою,*
*І нашай долі найпрасветлы храм*
*Зноў паўстае перад табой і мною.*

*Зайдзі ў наш храм,*
*каханая,*
*зайдзі,*
*Няма там злыдня,*
*як няма і звера,*
*І строгага нямашака суддзі,*
*Там толькі наша ў нашы душы вера.*

*Зайдзі ў свой храм.*
*Я буду там адзін,*
*З каленяў падымуся і прывечу,*
*Як самы божы,*
*самы верны сын,*
*Які кахае,*
*ды які не вечны.*

* * *

*Ты ў мораку,*
*а свеціш пазалотай,*
*Ты ў цемры,*
*а здаешся незямной,*
*Найсамаю найдарагою цнотай,*
*Найпекнаю каханкай —*
*як са мной.*

*Захочаш адцурацца —*
*не паспееш,*
*Завабіш у сіло —*
*ды не мяне?*
*Штодня ты не старэеш —*
*маладзееш,*
*Нібы адбітак ценю на сцяне.*

*І ўсё ж не залатое з залатога,*
*А цёмнае вяртаецца з начы.*
*З высокага пакоцішся парога,*
*Каб з нізкага не ўпасці памагчы.*

*І ўстаць у пракаветнай пазалоце,*
*І вырасці да незямных вышынь,*
*Каб віснуць між ануч тваіх на плоце,*
*Што засталіся ад эпохі Мінь.*

* * *

*Слодычы слоў яваю нельга пярэчыць,*
*Вымеце радасць вецер з майго языка.*
*Ты не жыла,*
*калі золатам ззялі ўсе рэчы,*
*Ты аджыла,*
*як у небе памерла рака.*

*Водмелі цела твайго не мялеюць ніколі,*
*Тоні глыбокія сэрца тваё сцерагуць,*
*Ты не была яшчэ ў гэтакай збеднелай ролі,*
*Дзе спачуваюць,*
*а жыць да канца не даюць.*

* * *

*Ты —*
*дзіўная, ты —*
*вечная,*
*ты — скруха,*
*Ты —*
*годная...*

*І ўсё,*
*што ні кажы,*
*І з горла майго,*
*вока майго,*
*вуха*
*Асядзе пазалотай на крыжы.*

*Ты молішся.*
*А я цябе чакаю*
*У пачакальні,*
*дзе памылі крыж,*
*Я бруд цалую,*
*а душу караю,*
*А ты,*
*нібы абраз,*
*яшчэ маўчыш.*

* * *

*Зіма,*
*каханая.*
*Кладзецца вечны снег,*
*Які настрою нашаму прысніцца...*
*Абняць цябе —*
*як запаволіць грэх,*
*Пацалаваць —*
*пра грэх зусім забыцца.*

*Зіма, каханая.*
*На снежным цаліку*
*Слядоў тваіх да вечара не ўбачу...*

* * *

*Вярніся,*
*бо не вернецца нішто,*
*З'явіся,*
*як з'яўляюцца з туману,*
*Прыдумай,*
*што забыла паліто,*
*А я знайду яго назло падману.*

*Вярніся,*
*як вяртаюцца з вышынь,*
*Куды вятры знарок цябе адносяць,*
*Вярніся,*
*калі ты была ў багінь*
*І там цябе багіняй быць не просяць.*

* * *

*І сёння,*
*і заўтра,*
*і ў час адзіноты святое*
*Душа да тваёй паляціць,*
*нібы птах,*
*напрасткі,*
*Каб зведаць і ўбачыць*
*цвіценне тваё залатое*
*І ў сне дакрануцца да цёплай,*
*дрыготкай шчакі.*



**Над крынічкай каля вёскі Дыбалі Бешанковіцкага раёна. Жнівень 2009 года.**

*Здаволіць грэх —*
*стрымаць сваю руку,*
*Убачыць грэх —*
*цябе адняць у плачу.*

* * *

*Каханая,*
*твае анёлы спяць.*
*І ты спачні,*
*як Бог пасля дарогі.*
*Хай кпяць з мяне,*
*з цябе даўно не кпяць.*
*Усе,*
*хто быў зайздросны,*
*стаў убогі.*

*Спачні.*
*Бо гэтак хочацца начы,*
*Што нас з табой да рання разлучыла.*
*Я не магу табе дапамагчы*
*Быць некаханай для мяне, нямілай.*

*Я не магу сябе перамяніць*
*Ні ўчора,*
*і ні сёння,*
*і ніколі.*
*Спачні.*
*І я змагу цябе любіць*
*Сваёю,*
*але прагнаю да волі.*

*Душу не ўтрымаеш*
*ніякай пагрозаю клятай,*
*Яе не забавіш у нейкі завоблачны рай...*
*Калі ж і яна хоць у чым*
*прад табой вінавата,*
*Дык мне не даруй,*
*а яе,*
*я малю,*
*не карай.*

*А час праміне.*
*І калісьці са светлай мілосцю*
*Ты ўспомніш душу,*
*што ў халодны нябыт адышла,*
*Як самую добрую і нечаканую госцю,*
*Што волі не мела, ды вернай заўсёды была.*

* * *

*У душы надвячорка,*
*Між травінак густых,*
*Цішыня-фантазёрка*
*Зачароўвае слых*

*Неба вечным спакоем*
*Над сіроткай-сасной,*
*Туманком над ракою,*
*Над ракой незямной;*

*Птушкі дзікае пёркам,*
*Што плыве — не плыве*
*Над прымглёным пагоркам,*
*Дзе прытульна траве,*

*Дзе задумна прысяду...*
*Ціша згадкі спаўе.*
*І цямнець далягляду*
*Новы дзень не дае.*

* * *

*Ноч.*
*Не спіцца.*
*Чакаю святла,*
*Як цябе кожны дзень чакаю*
*Там,*
*дзе ты яшчэ не была, —*
*На памежку ні пекла, ні раю.*

*Там,*
*дзе наш неспазнаны грэх*
*Падпаўзае да ног змяёю,*
*Там,*
*дзе коціцца ў полі смех*
*Ўслед за ціхай душой маёю.*

*Там...*
*Адна толькі ты,*
*як лёс,*
*Клічаш з поля, пекла і раю,*
*Я бягу да цябе,*
*як да слёз,*
*Што з балючай шчакі выціраю.*

*Слоў баюся,*
*як неманы, —*
*Раптам будуць яны не тыя...*
*Ноч.*
*Не спіцца.*
*А дзесьці ты*
*Сны дасніш свае залатыя.*

* * *

*Каханая,*
*мне не хапае слоў,*
*Каб расказаць,*
*што ты важней за слова.*
*З усіх на свеце невымоўных моў*
*Гучней гучыць адна —*
*кахання мова.*

*Насуперак непрадказальным снам,*
*Ад першага пагляду і спаткання*
*На мове,*
*зразумелай толькі нам,*
*Мы пішам кнігу нашага кахання.*

## Сны

*Сны камянеюць.*
*Сны стаяць,*
*як вежы,*
*Але праз камень, як праз шкло,*
*відно:*
*Яны ні мне,*
*ні небу не належаць,*
*Не хлусяць,*
*не крадуць,*
*не п'юць віно.*
*Сны камянеюць.*
*Сны растуць,*
*як храмы,*
*На месцы веры ў самы лепшы сон,*
*Яны не забываюць*
*вечнай драмы —*
*Што ў веры ёсць*
*пачатак і схарон.*
*Сны камянеюць.*
*І жыцця дарога*
*Ізноў кружляе,*
*што я ні раблю,*
*Ля вежаў,*
*што бароняць ад зямнога,*
*Ля храмаў,*
*што вяртаюць на зямлю.*

# Адрадзілася батлейка на Дзяржыншчыне

Лявон ЦЕЛЕШ, фота аўтара

**У ранейшыя часы ў Беларусі ніводнае свята — прынамсі, Раство Хрыстова і Каляды — не абыходзілася без старадаўняга лялечнага тэатра батлейкі. На навагодніх кірмашах цудоўная казка пра нараджэнне Хрыста збірала мноства гледачоў. У колішнім мястэчку Койданава (цяперашні горад Дзяржынск), як і шмат дзе ў Беларусі, таксама праводзіліся святочныя кірмашы. Акрамя прадаўцоў і пакупнікоў, іх наведвалі шматлікія жанглёры, валачобнікі, са Смаргоні прыязджалі дрэсіроўшчыкі мядзведзяў са сваімі калматымі “артыстамі”. А з Мінска ў Койданава наведваліся на кожны такі кірмаш батлеечнікі. З іх прыездам асноўная гурма патэнцыяльных пакупнікоў не звяртала больш увагу на гучныя заклікі: “Свежыя абаранкі!”; “Купіце, кавалеры, сваім паненкам каралі, пярсцёнкі!”. Усе стараліся праціснуцца да вандроўных артыстаў, якія ўсталёўвалі сваю цудоўную скрынку-батлейку. Дзея пачыналася, і ўсе з дзіцячай цікавасцю сачылі за развіццём сюжэта інтэрмеды.**

Летапісец Дзяржыншчыны, гісторык, краязнаўца, пісьменнік Анатоль Валахановіч пісаў пра тое, што ў дзяцінстве вельмі любіў наведваць батлейку на койданаўскіх кірмашах адзін з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра, акцёр, ураджэнец Койданаўшчыны Уладзімір Крыловіч. Магчыма, глыбокія дзіцячыя ўражанні ад батлейкі паспрыялі выбару ім прафесіі акцёра. І сёння, праз многія дзесяцігоддзі, батлейка павольнымі, але ўпэўненымі крокамі вяртаецца на гэтую зямлю. На працягу пяці гадоў батлеечны тэатр дзейнічаў у школе вёскі Дворышча, дзе яго стварыла разам з вучнямі настаўніца Таццяна Будай.

Пасля перапынку батлейка пры канцы мінулага года зноў вярнулася на Дзяржыншчыну. Напярэдадні каталіцкага Раства Хрыстовага, 24 снежня, у вёсцы Вялікае Сяло, у невялічкім утульным пакоі раённага Дома народнай творчасці адбылася прэм’ера старадаўняй драмы “Цар Ірад”. Ёю і адкрыўся лялечны тэатр “Батлейка”. Быццам вандруючы на фантастычнай машыне часу, гледачы станавіліся сведкамі падзей, якія адбываліся дзве тысячы гадоў таму, калі нарадзіўся Ісус Хрыстос. Шматлікім чытачам “ЛіМа” няма сэнсу пераказваць змест гэтай драмы. Адзначу адметнасць самога спектакля. Яна ў тым, што выканаўцамі роляў сталі вучні 1-х — 7-х класаў Вялікасельскай сярэдняй школы. Працу рэжысёра-пастаноўшчыка ажыццявіла таленавіты педагог Тамара Заблоцкая.

Вядомы ў Беларусі і за яе межамі выдатны адмысloўца па вырабе драўляных гадзіннікаў Андрэй Мартынюк змайстраваў вельмі прыгожую, аздобленую арнаментам, двухпавярховую скрынку, у якой адбываецца дзеянне. А лялькі для спектакля па-мастацку і з любоўю вырабілі дырэктар Дома народнай творчасці, цудоўны мастак, керамiст, педагог Наталля Ермаловіч разам са сваёй колішняй вучаніцай майстрыхай Вольгай Мешчараковай.

Пастаноўка выконвалася на нашай багатай, мілагучнай беларускай мове!

У дзень прэм’еры юныя артысты далі ажно чатыры прадстаўленні. А ў ролі гледачоў змаглі пабываць усе вучні і настаўнікі Вялікасельскай школы, выхаванцы дзіцячага садка, а таксама бацькі артыстаў, жыхары вёскі. Трэба было бачыць, як шчыра, гарачымі апладысментамі гледачы сустракалі і артыстаў, і тых, хто арганізаваў гэты тэатр — Наталлю Ермаловіч, Тамару Заблоцкую, Андрэя Мартынюка і Вольгу Мешчаракову. Гэта быў сапраўдны трыумф! Як жа тут не назваць імёны юных артыстаў — вучняў школы! Гэта Ганна Юцкевіч, Уладзімір Майдзібор, Дар’я Гаркун, Цімафей Пяўнёў, Мікіта Круглік, Вераніка Чэрнікава, Вікторыя Векша, Дар’я Круглік, Яўген Майсееў. Хто ведае, мо з цягам часу нехта з іх стане, як і Уладзімір Крыловіч, выдатным артыстам? А калі не, дык гэтая падзея ў памяці юных батлеечнікаў застанецца на ўсё жыццё, бо яны ўпершыню дакрануліся да самага цудоўнага ў свеце — мастацтва тэатра.

А зусім нядаўна нованароджаны тэатр выступіў у чытальнай зале Дзяржынскай раённай бібліятэкі. Яна была перапоўнена. Шматлікія чытачы прыйшлі на свята батлейкі са сваімі дзецьмі і ўнукамі. Спектакль праходзіў у рамантычнай атмасферы, пры свечках. Дырэктар бібліятэкі Валянціна Клімовіч шчыра дзякавала і арганізатарам батлеечнага тэатра, і яго артыстам за свята, падоранае імі шматлікім чытачам.

Такім чынам, з Калядамі на старажытную Койданаўскую зямлю Дзяржыншчыны вярнулася батлейка, і гэтым разам, трэба спадзявацца, назусім!

*На здымку: артысты батлейкі і арганізатары, стваральнікі тэатра пасля спектакля ў Дзяржынскай раённай бібліятэцы.*

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА, фота Кастуся Дробава

Алег Лясун стаў галоўным дырыжорам Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. Пэўны час ён узначальваў Сімфанічны аркестр Белтэлерадыёкампаніі, затым паспяхова працаваў у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі. Дэбютам маэстра ў новым творчым калектыве стане прэм’ера аперэты І. Кальмана “Сільва”, запланаваная на 27 сакавіка, Міжнародны дзень тэатра. Як дырыжор-пастаноўшчык ён працуе над гэтым спектаклем разам з галоўным рэжысёрам БДАМТ Сусанай Цырук.

Многія нашы суайчыннікі на мінулым тыдні сімвалічна сустракалі Стары Новы год. А тыя, хто завітаў у Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі, адзначылі гэтае традыцыйнае свята асабліва прыгожа: тэатр наладзіў для сваіх гасцей шыкоўны баль, які працягваўся далёка за поўнач! Упершыню Вялікі навагодні баль у Вялікім тэатры праводзіўся летась, пра што мы падрабязна распавядалі ў “ЛіМе”. Гэтым разам наведвальнікі імпрэзы таксама змаглі ўбачыць некалькі канцэртных праграм, паўдзельнічаць у святочных гульнях ды віктарынах і сустрэць Стары Новы год з традыцыйным бакалам шампанскага ў асяроддзі артыстаў... У адрозненне ад мінулага года, сёлета арганізатары балю зрабілі акцэнт на танцавальнай праграме. Таму ўрокі класічнага танца для гасцей праводзіліся ў тэатры яшчэ пры канцы мінулага года, каб кожны ўладальнік білета на баль змог загадзя навучыцца танчыць паланэз, вальс ды польку, а потым спрычыніцца да сапраўднага свята, зладкаванага ў духу беларускіх шляхецкіх, а таксама славутых венскіх і пецярбургскіх баляў.

На сайце Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі з’явіўся новы інфармацыйны праект “Гісторыя аднаго твора”. Кожны яго выпуск будзе знаёміць усіх цікаўных з адметнай гісторыяй пэўнага экспаната са збору НММ. Першы выпуск праекта прысвечаны выяве Паўла І. Мастак Сцяпан Шчукін, стварыўшы парадны партрэт маладога расійскага імператара ў 1797 г., атрымаў званне акадэміка жывапісу, а пазней напісаў некалькі варыянтаў гэтага партрэта. Менавіта адзін з такіх аўтарскіх паўтораў — “Партрэт Паўла І” 1798 г. — захоўваецца ў НММ Беларусі. Аўтар тэксту пра мастака і лёс яго самай, бадай, вядомай карціны — старшы навуковы супрацоўнік музея Юлія Мішакова.

*На здымках: галоўны дырыжор Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Алег Лясун; Сцяпан Шчукін “Партрэт Паўла І” (1798).*

## Сваепрэм’еры

**Аднаактовы спектакль “Эдзіп”** — яшчэ адна версія вечнага сюжэта, вядомага чалавецтву са старажытных часоў. Жыццёвыя блуканні, хвіліны ілюзорнага трыумфу, горкія адкрыцці антычнага цара даследавалі, следам за Сафоклам, Сенэка і Карнэль, Вальтэр і Както. Трагічная гісторыя пра цара Эдзіпа зусім своеадметна увасоблена і ў нядаўняй прэм’еры Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага. П’еса маладога беларускага аўтара Алены Мінчуковай пастаўлена знаным рэжысёрам Барысам Луцэнкам ды мастаком Алай Сарокінай на Малой сцэне тэатра. Псіхалагічнае напружанне відовішча сілкуецца ігрой акцёраў Руслана Чарнецкага, Валерыя Шушкевіча, Алены Унукавай, Вячаслава Быкава. Бліжэйшы паказ — 25 студзеня.

**Аўтарскі праект “Курэйчык. Live”** мае на мэце представіць айчыннай публіцы п’есы гэтага вядомага драматурга, што пакуль не ставіліся і не друкаваліся ў Беларусі. У іх ліку — “Таемныя сустрэчы СД і ПП”, прэзентацыя якой адбылася нядаўна ў сталічным Цэнтры сучаснай драматургіі пры падтрымцы Сучаснага мастацкага тэатра. Уласную п’есу, гэткі своеасаблівы позірк на стасункі Пабла Пікаса і Сальвадора Далі, Андрэй Курэйчык характарызуе як “выкшталцоную і гурманскую літаратурную страву, што спалучае ў сабе даліянскі паэтызм і пікасаўскую брутальнасць”. Рэжысёрам прэзентацыі, на якую былі запрошаны паспяховыя асобы з артыстычнага свету, стаў сам А. Курэйчык. А ролі ў прэм’еры-чытцы сыгралі мастацкі кіраўнік СМТ Уладзімір Ушакоў ды акцёры розных мінскіх тэатраў, у тым ліку Ігар Падлівальчаў, Вольга Курэйчык, Паліна Сыркіна. Знаёмства з наступнай п’есай чакаецца ў лютым.

Арцём КУМЕЛЬСКІХ



# Яе Вялікасць Песня

Уладзімір ВАСІЛЁНАК,
фота Віктара Кавалёва

**У Мінску адбылося Рэспубліканскае свята-конкурс вакальна-харавых калектываў, праведзенае пад патранатам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускага саюза музычных дзеячаў і Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Імя выдатнага беларускага харавога дырыжора, фальклaрыста, народнага артыста СССР Генадзя Цітовіча, 100-годдзю якога было прысвечана гэтае мерапрыемства, аб'яднала ўсіх аматараў народных спеваў.**

Удзельнікамі абласных адборачных тураў, якія праўтарываліся ў сапраўдныя святы нацыянальнага мастацтва, сталі 48 калектываў. Яе Вялікасць Беларуская народная песня гучала ва ўсю сваю моц на працягу трох тыдняў па ўсёй краіне. Рэспубліканскаму журы ў складзе народнага артыста Беларусі М. Дрынеўскага (старшыня), заслужаных дзеячаў культуры, прафесараў Я. Раўтовіча і С. Дробыша, заслужанага дзеяча адукацыі, прафесара А. Пякуцькі, начальніка ўпраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры У. Шавялёва, загадчыка сектара Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі А. Сушы, першага намесніка старшыні праўлення БСМД Н. Вітчанкі няпроста было вызначыць пераможцаў. Высокае прафесійнае майстэрства, выразнае сцэнічнае спалучэнне і тэатралізацыя інструментальнага, вакальнага і харэаграфічнага мастацтва, жанравая разнастайнасць і рэгіянальныя адметнасці нашых народных песень, інструментальных найгрышаў і танцаў — праз усё гэта калектывы раскрывалі багаты ўнутраны свет беларусаў ды перадавалі лепшыя рысы і традыцыі беларускага фальклору. Але ж вось яны — лаўрэаты:

**У намінацыі "Вакальныя ансамблі народнай песні"** — народны ансамбль народнай песні і музыкі **"Шчодрыца"** Палаца культуры "Лошыцкі" (кіраўнік — Ірына Вакульчык). У складзе калектыву студэнты вышэйшых навучальных устаноў і прафесійных вучылішчаў сталіцы. У рэпертуары калектыву адлюстравана багатая і разнастайная песенная, музычная спадчына беларускага народа.



"Шчодрыца" папулярызуе беларускую традыцыйную культуру праз вывучэнне і адраджэнне старадаўніх каляндарных абрадаў: Каляда, Гуканне вясны, Масленіца, Купалле. Ансамбль ужо неаднаразова станавіўся пераможцам фэстаў як у сваёй краіне, так і далёка за яе межамі.

**У намінацыі "Ансамблі народнай песні і танца"** — заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь ансамбль песні і танца **"Спадчына"** Палаца культуры горада Маладзечна. Гэта адзін з найстарэйшых і дыпламаваных аматарскіх калектываў краіны, кіраўнік якога — заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Іосіф Сушко — у 1998 годзе за дасягненні ў эстэтычным і маральным выхаванні беларускага народа, прапаганду духоўных каштоўнасцей у галіне мастацкай самадзейнасці атрымаў спецыяльную прэмію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне". Як заўсёды, выступленне "Спадчыны" захапіла гледачоў самабытным мастацтвам, цікавымі вакальна-харэаграфічнымі кампазіцыямі на аснове беларускага фальклору.

**У намінацыі "Хары з народнай манерай выканання"** — заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь **"Бліскавіца"** філіяла Гродзенскага РУП электраэнергетыкі "Гроднаэнерга" — Гродзенскія электрычныя сеткі (кіраўнік — Наталля Міхневіч). Сёння ў калектыве больш як 50 удзельнікаў, і кожны ўсім сэрцам, усёй душою аддадзены беларускай нацыянальнай культуры, беларускай народнай песні. Аснову рэпертуару калектыву складаюць народныя песні, запісаныя на Панямонні.

А на адборачным туры ўсіх уразіла выкананне "Бліскавіцай" беларускай народнай песні "Рэчанька" ў апрацоўцы Г. Цітовіча. Так пранікнёна яна не гучала ні ў кога!

Увогуле ж, акрамя трох лаўрэатаў Рэспубліканскага свята-конкурсу, яшчэ тры калектывы атрымалі дыпломы І ступені, шэсць — дыпломы ІІ ступені і дзевяць — дыпломы ІІІ ступені.

Урэшце ўсе пераможцы сабраліся ў Мінску: тут, у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, адбыўся заключны гала-канцэрт. Ён стаўся сапраўдным святам народнага мастацтва. Перапоўненай зале калектывы дэманстравалі разнастайнасць жанраў і выканальніцкіх манер, надзвычай высокі ўзровень майстэрства. Безумоўным упрыгажэннем і апафеозам гэтага свята стала выступленне Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча, — калектыву, які сёння пад кіраўніцтвам М. Дрынеўскага з'яўляецца прызнаным лідарам народнага харавога мастацтва ў краіне, сапраўднай лабараторыяй па захаванні і развіцці традыцый, закладзеных яго заснавальнікам.

Адшумела свята, і трэба падводзіць вынікі. Галоўная выснова: яшчэ раз пацвердзілася, што беларуская народная творчасць, народнае традыцыйнае мастацтва — шматфарбнае і неацэннае багацце нацыянальнай культуры. І праводзіць такія фэсты трэба не радзей як адзін раз на 3 — 5 гадоў, стымулюючы такім чынам далейшае развіццё вакальна-харавога жанру ў самадзейнай творчасці беларусаў. І гэта тым больш актуальна сёння, калі на фоне шэрагу дэструктыўных з'яў, якія адбываюцца ў грамадстве (захапленне чужаземнай, кіч-серыйнай культурнай прадукцыяй, страта моладдзю імунітэту да псеўдакультуры) народная творчасць паўстае адным з галоўных механізмаў эстэтычна-духоўнага выратавання насельніцтва і, у першую чаргу, моладзі.

***На здымку: Нацыянальны акадэмічны народны хор Беларусі імя Г. Цітовіча.***

# Харавое «Рэха»

Галіна ВАСІЛЬЧАНКА

**Пры канцы мінулага года ў Мінску прайшоў І Беларускі фестываль-конкурс нацыянальнай харавой музыкі "Рэха", галоўным арганізатарам якога выступіў нядаўна створаны творчы цэнтр "BelArtSound" Беларускага саюза музычных дзеячаў (галоўны каардынатар праекта — Галіна Казіміроўская).**

Гэты фестываль-конкурс меў на мэце звярнуць увагу выканаўцаў на беларускую харавую музыку і паспрыяць яе папулярызацыі ў шырокіх колах слухачоў. Арганізатары праекта разглядалі яго як магчымасць для ўсіх удзельнікаў прадставіць на сталічнай сцэне свае творчыя дасягненні, атрымаць імпульсы для далейшага прафесійнага развіцця, наладзіць узаемныя кантакты.

Адметная музычная імпрэза, якая адбывалася ў краіне ўпершыню, выклікала вялікую грамадскую цікавасць. "Рэха" сабрала 35 вакальна-харавых калектываў з усёй Беларусі. Былі прадстаўлены ўвесь зрэз сучаснай айчыннай вакальна-харавой выканальніцкай культуры: вакальныя ансамблі, змяшаныя і аднародныя хары, калектывы прафесійныя і аматарскія, з акадэмічнай і народнай манерамі спявання, а таксама дзіцячыя і дзіцяча-юнацкія хары. Творчае спаборніцтва аб'яднала людзей розных узростаў — самаму малодшаму ўдзельніку было толькі шэсць гадоў, а самы дарослы ўжо адзначыў сваё 88-годдзе.

Конкурсныя праслухоўванні адбыліся ў канцэртнай зале Дзіцячай музычнай школы № 10 імя Я. А. Глебава. Дзякуючы агульнай зацікаўленасці і адказнасці кіраўніцтва школы на чале з дырэктарам, заслужаным дзеячам культуры Рэспублікі Беларусь Т. Куніцкай, на конкурсе была створана атмасфера цеплыні і добразычлівасці, усе ўдзельнікі і члены журы адчувалі клопат і павагу. Усё гэта вызначыла поспех новага мерапрыемства, якое прайшло на высокім творчым і арганізацыйным узроўні.

Прафесійнае журы, якое ўзначальвала дацэнт кафедры харавога дырыжыравання Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Л. Шымановіч, вызначала пераможцаў конкурсу. Гран-Пры атрымаў Народны хор ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і працы г. Барысава (кіраўнік В. Геаргіу), а першыя месцы — узорны дзіцячы хор "Тоніка" сталічнай ДМШ № 1 (кіраўнік А. Снітко, катэгорыя "Дзіцяча-юнацкія хары"), народны вакальны ансамбль "Вясна" г. Полацка (кіраўнік Т. Шыбуняева, катэгорыя "Вакальныя ансамблі"), народны хор Морацкага сельскага Дома культуры Клецкага раёна (кіраўнік — заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Я. Піліпеня, катэгорыя "Народныя аматарскія змяшаныя хары"), народная харавая капэла БНТУ (кіраўнік А. Ісайкіна, катэгорыя "Акадэмічныя аматарскія змяшаныя хары"), маладзёжны хор "Brevis" Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў (кіраўнік С. Кунцэвіч, катэгорыя "Аматарскія аднародныя хары").



Усе гэтыя калектывы, а таксама ганаровыя госці фестывалю — ансамбль народнай музыкі "Валачобнікі" пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча культуры Беларусі С. Дробыша і камерны хор "Salutaris" пад кіраўніцтвам В. Янум — узялі ўдзел у гала-канцэрце, які з вялікім поспехам адбыўся ў Канцэртнай зале Клуба імя Ф. Дзяржынскага.

Прызнаючы вялікае музычна-асветніцкае значэнне фестывалю-конкурсу "Рэха" і яго духоўна-маральны патэнцыял, неабходна адзначыць і тое, што ён акрэсліў адну з галоўных сённяшніх праблем: недахоп выдадзенага нотнага матэрыялу, "хранічную" недаступнасць нот харавых твораў нацыянальных кампазітараў. Таму, маючы намер ладзіць гэтае мерапрыемства штогод, арганізатары праекта плануюць прыкласці, разам з Беларускім саюзам музычных дзеячаў, усе намаганні, каб вырашыць і гэтую важную праблему.

***На здымку: мужчынская група народнага хору Морацкага СДК Клецкага раёна.***

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.
Тэлефоны: *(017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.*

## Слова краязнаўцы



**Наталля Емяльянчык, захавальнік фондаў Баранавіцкага краязнаўчага музея, расказвае пра ролю і месца даведнікаў і каталогаў у краязнаўчай працы.**

— Прагладаючы вялікую колькасць кніг, міжволі засяроджваеш увагу на выданнях, у якіх можна знайсці штосьці цікавае пра падзеі, звязаныя з родным горадам, пасёлкам ці вёскай. На жаль, гісторыя яшчэ не ўсіх населеных пунктаў нашай краіны дасканала даследавана. Значны ўклад у далучэнне да гэтай спадчыны ўносяць супрацоўнікі музейных устаноў, якія намагаюцца запоўніць усе прабелы, працуючы над рознымі даведнікамі і каталогамі.

Напрыклад, у нашым музеі створаны даведнікі, якія закранаюць асноўныя бакі развіцця горада пачынаючы з 1944 года: "Гонар зямлі Баранавіцкай", "Баранавічы – буйны прамысловы цэнтр", "Ахова здароўя", "Баранавічы — транспартны цэнтр" і інш. У пачатку мінулага года ўбачыла свет кніга "Баранавічы на паштоўках і фотаздымках". Гэта вынік працы з фондавымі матэрыяламі былога дырэктара музея, вядомага краязнаўцы Станіслава Шчарбакова. Выданне выклікала вялікую цікавасць у яго калег, мясцовых жыхароў і гасцей горада.

У нас шмат зроблена па стварэнні музейных каталогаў на аснове фондавага збору. Сёння, на жаль, вельмі мала выдадзеных і даступных для шырокага азнямлення каталогаў, створаных па музейных экспазіцыях. Мы ўжо амаль на 60 працэнтаў перавялі свае папяровыя картатэкі і каталогі ў электронны выгляд і працягваем працу ў гэтым кірунку. Дарэчы, уведзеная музейная камп'ютарная праграма значна спрасціла пошук інфармацыі падчас працы з музейнымі прадметамі і калекцыямі, хутчэй рыхтуюцца адказы на запыты прыватных асоб. Распрацавана таксама камп'ютарная праграма, дзякуючы якой палепшылася ўзаемасувязь паміж музеямі Беларусі. Усе калекцыі будуць аб'яднаны ў адзіную сетку і падключаны да Інтэрнэта. І тады амаль кожны з нас па сваім жаданні, не пакідаючы дома ці кватэры, зможа наведаць любы музей.

## Памяці пісьменніка

Таццяна КАНАПАЦКАЯ

Радкі старых кніг ажываюць памяццю пра асобы і падзеі. Пра гэта ішла гаворка на VI краязнаўчай канферэнцыі, што прайшла ў Лунінцы. Традыцыйна яна была прысвечана пісьменніку-земляку Мікалаю Калінковічу. Дзве яго невялічкія кніжачкі з назвай "Лунінец" і сёння ўважліва чытаюць на радзіме.

Шануючы памяць М. Калінковіча, які ў свой час працаваў у раённай газеце, рэдакцыя "Лунінецкіх навін" з 2001 года праводзіць конкурсы чытальнікаў твораў краязнаўчай тэматыкі. Сёлета ўзнагароджаны вучань 10 класа і яго настаўніца Валянціна Казун. За плённую навукова-даследчую дзейнасць у галіне краязнаўства адзначаны і калектыў Сінкевіцкай сярэдняй школы і яе дырэктар Уладзімір Калянковіч.

Каб не спынілася часоў сувязь, дыпломамі памяці адзначаны творцы, а таксама тыя, хто зрабіў значны ўнёсак у развіццё культуры Лунінеччыны.

## Музейны ўнікат

# Вароты ў храм

**Калі аглядаеш беларускія музеі, часта звяртаеш увагу, што многія іх экспанаты звязаны з народнымі рамёствамі. Можна шмат сустрэць прадметаў з дрэва, ільну, гліны і, канечне, саломы. Саломапляценне — даўні занятак нашых продкаў, які і сёння папулярны сярод народных майстроў. У этнаграфічных і краязнаўчых музеях краіны прадстаўлены традыцыйныя саламяныя брылі, начынні, скульптуры, павукі. Але сярод іх сустракаюцца і сапраўдныя ўнікаты.**

Таццяна КАЗАК,
Рыта ЯНЧАЛОЎСКАЯ

Саламяныя царскія вароты, што знаходзяцца ў экспазіцыі Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, заўсёды прыцягваюць позірк наведвальніка. Царскія вароты — гэта частка іканастаса ў праваслаўнай ці грэка-каталіцкай царкве, менавіта яны злучаюць алтар з астатняй прасторай храма.

Унікальныя саламяныя вароты створаны ў канцы XVIII — пачатку XIX стст. для ўніяцкай царквы вёскі Ляскковічы, што ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці. Яны выкананы ў тэхніцы аб'ёмнага пляцення, аснова дэкору варот — традыцыйная вітая пляцёнка і чатырохгранныя плоскія ромбы зустаўкамі кавалачкаў каляровых тканін. Пра іх прыналежнасць менавіта да ўніяцкай царквы сведчаць жывапісныя ўстаўкі-медальёны ў варотах, напісаныя алейнымі фарбамі па дрэве — выявы чатырох евангелістаў і сцэна Благавешчання.

Царскія вароты трапілі ў музей яшчэ ў даваенныя часы, калі першы яго дырэктар Юзаф Ядкоўскі праводзіў актыўную навукова-пошукавую дзейнасць. Ён знайшоў іх на хорах былога кляштара бернардынак у Гродне ў 1924 г. У горад жа вароты былі прывезены раней — пасля 1904 г., у Гродзенскі царкоўна-археалагічны музей. У 1978 — 1979 гг. яны былі часткова аднаўлены майстрам Ларысай Лось.

> *Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей сёння — унікальны гісторыка-археалагічны і гісторыка-культурны комплекс. Музей заснаваны ў 1920 годзе па ініцыятыве гісторыка і археолага Юзафа Ядкоўскага. Яго фонд сёння налічвае больш як 190 тысяч прадметаў.*



Такія ўнікальныя саламяныя царскія вароты існуюць толькі ў нашай краіне, што сведчыць пра талент і высокі ўзровень майстроў мінулага Беларусі.

# Вяртанне традыцый

Яўген ЛЕЦКА,
фота з архіва аўтара

**"Пра характэрную асаблівасць беларускага вяселля гаворыць сама назва. Вяселле — ад слова "весела", — піша Кастусь Цвірка ў прадмове да кнігі "Вяселле. Абрад", выдадзенай Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. І сапраўды, пачатак новага, самастойнага жыцця чарговага звяна, што мацаваў два ланцужкі розных родаў, традыцыйна беларусы адзначалі на працягу некалькіх дзён: не змаўкалі песні, музыка, жарты, віншаванні і пажаданні, віравалі танцы, ладзіліся тэатралізаваныя сцэнкі…**

На жаль, сёння доўга трэба шукаць сляды традыцыйнага беларускага вяселля. А сучаснае — проста звычайнае, але шматлюднае застолле. Замест жывых музыкаў — апаратура, якой не выкажаш пажаданні, з якой не пасмяешся: ёй няма чаго баяцца, што пойдзе, як колісь, па нагаколлі дурная пра такую музыку слава і яе выканаўцаў перастануць запрашаць на ўрачыстасці. У ЗАГСе прамаўляюцца стандартна-завучаныя словы, гэты ж "шырпатрэб" гучыць з вуснаў так званых вядучых, якім абы адбыць "мерапрыемства" і пакласці ў кішэню пэўную суму. Як ім удасканальвацца, адкуль браць прыклад?

Ці можна выправіць сітуацыю, калі цэлае пакаленне нават не ўяўляе, што можа быць нешта іншае, сапраўды жывое і вясёлае, нестандартнае, не чужое і нам далёкае, а сваё, роднае? Такую спробу зрабілі прадстаўнікі беларускага року. На вяселлі студэнткі філфака Белдзяржуніверсітэта Алесі і Алеся Таболічаў (Алесь ужо 15 гадоў спявае ў гурце "Зніч") рэй вяла завадатарка-імправізатарка, запрошаная з музея архітэктуры і побыту, адзінага ў Беларусі музея пад адкрытым небам, дзе добра ведаюць традыцыі і абрады, што рабілі жыццё беларуса на працягу стагоддзяў цікавым, адухоўленым без кіно, тэатра і тэлевізара.

Пасля фармальнасцей у ЗАГСе маладыя апрануліся ў традыцыйныя беларускія нацыянальныя строі, знарок дзеля гэтага моманту распрацаваныя. Былі і традыцыйныя сват са сваццяй, шчырыя віншаванні бацькоў караваем, хлебам і соллю. Сяброў-музыкаў было ў маладых шмат. Весялілі-забаўлялі гасцей славутыя ўдзельнікі гурта "Баламуты" Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, вылучаючыся фольк-гурт "Ліцвіны", нязменны кіраўнік якога Уладзімір Бербераў — унук Аркадзя Куляшова.



Добра, што ў этнаграфічнай літаратуры вяселлю пашанцавала як ніякаму іншаму абраду: апрача працытаванага ў пачатку выдання ёсць шасцітомная серыя "Беларуская народная творчасць", "Вяселле на Гомельшчыне", "Традыцыйнае вяселле Мядоцкага краю" (аўтары — М. Козенка і А. Абрамовіч)... Звярніцеся да іх, прыгадайце сёння заручыны і пярэзвы, іншыя складнікі вясельнага абраду.

Думаецца, пры падтрымцы Міністэрства культуры краіны і па ініцыятыве зацікаўленых у адраджэнні традыцыйнай беларускай абраднасці можна вярнуць непаўторнае "эксклюзіўнае" народнае вяселле, згуляць якое не адмовяцца не толькі нашы маладыя, але і замежныя грамадзяне.

***На здымку: Алесь і Алеся Таболічы святкуюць вяселле.***

## Каляндар Гарадзеншчыны

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

Патрыятызм — не тое, з чым нараджаюцца. Патрыятызм трэба выхоўваць. Штодня, няспынна, цярпліва. Вучыцца любіць роднае, шанаваць сваё лягчэй за ўсё пачынаць з краязнаўства. І, дзякуй богу, сёння мы ўжо не маем недахопу ў адпаведных "падручніках", сярод якіх і кнігі публіцыстыкі, і разнастайныя даведнікі, і фальклорна-этнаграфічныя зборнікі. А вось "Выдавецкі дом ТБМ" прапанаваў іншы спосаб далучэння да краязнаўства, падрыхтаваўшы "Беларускі настольны перакідны краязнаўчы каляндар на 2011 год" (складальнік А. Пяткевіч, рэдактар С. Суднік). Асаблівасць гэтага выдання ў тым, што зроблены каляндар на матэрыяле ўсяго толькі аднаго, але даволі значнага для нашай гісторыі і культуры рэгіёна — Гродзеншчыны. Таму і другая яго назва — "Гродзенскі каляндар".

А ці ж многа можна назбіраць юбілеяў для аднаго года толькі на Гродзеншчыне? Аказалася, дастаткова. Прычым, хаця падзеі і асобы звязаныя з Гродзеншчынай, пераважная большасць іх выходзіць за межы"тутэйшых" велічынь.

Што ж будзем святкаваць, каго ўшаноўваць у 2011 годзе, згодна "Гродзенскаму календару"? У студзені адзначым атрыманне Слонімам Магдэбургскага права, 185-годдзе Рамуальда Траўгута. У лютым — 265-годдзе Тадэвуша Касцюшкі, 465-годдзе Фёдара Еўлашоўскага. У сакавіку — 685-годдзе славутага Брандэнбургскага паходу князя Давыда Гарадзенскага…

Нагода для таго, каб узгадаць добрым словам людзей, якія стваралі нашу Беларусь, дастаткова. Праца, праведзеная стваральнікамі календара, уражвае. Вынік — такі цікавы, што не церпіцца патрымаць у руках падобныя ж каляндарыкі пра іншыя рэгіёны Беларусі. 2011 год ужо распачаўся. Спадзяюся, у 2012 годзе мы атрымаем такую магчымасць.

# Школа Бакста і Дабужынскага

**Шкада, што дагэтуль не ведаў пра часопіс "Мишпоха", які выдаецца Саюзам Беларускіх яўрэйскіх грамадскіх арганізацый і абшчын у Віцебску на рускай мове. Але не так даўно ў букіністычнай краме я набыў восьмы нумар за 2000 год. Да маёй радасці, у ім змешчаны гісторыка-дакументальны нарыс "Біяграфія Марка Шагала", напісаны ўнучкай вялікага мастака Мерэт Мэер. У ім на вялікім, а самае важнае, малавядомым і надзвычай рэдкім замежным матэрыяле аўтар літаральна па гадах разгледзела жыццёвы і творчы шлях свайго дзеда, выдатна праілюстравала яго ўнікальнымі фотаздымкамі з сямейнага архіва. Нарыс напісаны Мерэт Мэер цудоўна, але я хачу звярнуць увагу на адзін эпізод з жыцця Марка Шагала, што, на мой погляд, не зусім поўна асветлены ў ім, але з'яўляецца вельмі значным у творчасці мастака.**

**Вячаслаў АФАНАСЬЕЎ**

"З рэкамендацыяй Зева (Леапольда. — *В. А.*), — піша Мерэт Мэер, — Шагал прыходзіць да Льва Бакста, выкладчыка школы Званцавай, вядомай сваімі ліберальнымі традыцыямі і адкрытай сучасным мастацкім плыням. Так адкрываецца новая глава ў жыцці маладога мастака, які сутыкаецца з вельмі рознымі тэндэнцыямі, такімі, напрыклад, як літаратурны сімвалізм і дэкаратыўныя плыні "Art Nouveau". Бакст спавядае новае азначэнне палітры, паводле якога колер з'яўляецца паўнапраўным элементам кампазіцыі".

Перш за ўсё хочацца зрабіць невялікае ўдакладненне. Калі меркаваць па калекцыі рэкламных лісткоў, якія захоўваюцца ў зборы Генадзя Чугунова, гэтая ўстанова называлася "Школа Бакста і Дабужынскага". Яна сапраўды была створана ў 1906 годзе на сродкі Лізаветы Званцавай — мастака і ўладальніцы некалькіх мастацкіх студый. Паколькі Л. С. Бакст (ён жа Розенберг) не пакінуў успамінаў пра гэту школу — ён дачасна памёр у 1924 годзе, — то мы звярнуліся да мемуараў яго калегі М. В. Дабужынскага. Гэты артыкул пра Бакста быў напісаны Мсціславам Валяр'янавічам неўзабаве пасля смерці сябра і апублікаваны ў газеце "Сегодня" 2 студзеня 1925 года. "У 1906 — 1908 гг., — піша Дабужынскі, — мы з ім (Бакстам. — *В. А.*) кіравалі заняткамі ў мастацкай школе (Л. М. Званцавай), дзе ў ліку вучняў быў Шагал, паэтэса Ірына Гуро, якая рана памерла, Нарбут і многія іншыя, хто потым стаў выбітнымі мастакамі".

"Бакст, — працягвае Мсціслаў Валяр'янавіч, — як выдатны малявальшчык даваў вучням надзвычай многа каштоўнага, патрабуючы перш за ўсё яснай і цвёрдай лініі (гэтая "лінія" была яго любімым "каньком"), што выклікала часта гарачыя спрэчкі з сябрамі".

Як бачым, гэтая заўвага Дабужынскага крыху разыходзіцца з пунктам гледжання Мерэт Мэер адносна таго, што "Бакст прапаведуе новае азначэнне палітры, паводле якога колер з'яўляецца паўнапраўным элементам кампазіцыі". Цалкам магчыма, што падобная "пропаведзь" з'явілася ў Льва Самойлавіча пазней, але не ў той перыяд яго працы, калі ў школе вучыўся Марк Шагал. Пра гэту "пропаведзь" абавязкова распавёў бы М. В. Дабужынскі, бо ён палічыў неабходным нагадаць пра "ясную і цвёрдую лінію" Л. С. Бакста.

Пакінуў Мсціслаў Валяр'янавіч і заўвагу пра месцазнаходжанне "Школы Бакста і Дабужынскага", у якой вучыўся Марк Шагал. "Школа тады змяшчалася, — піша ён, — на скрыжаванні Таўрычнай і Цвярской вуліц, насупраць Таўрычнага саду, — якраз пад кватэрай Вячаслава Іванава, якая была на самым верхнім паверсе гэтага вялікага дома з вуглавой вежай-ліхтаром. Вежа і стала знакамітай назвай сходаў у Вячаслава Іванава, яго серад, — новага літаратурнага цэнтра Пецярбурга".



*На здымку: Марк Шагал, 1907 г.*

Па сведчанні філосафа Мікалая Бярдзяева, сталага наведвальніка журфіксаў Вячаслава Іванава, наведвальнікамі і ўдзельнікамі гутарак, што праходзілі звычайна ў сераду, былі знакавыя для рускай літаратуры асобы, сярод якіх — Фёдар Салагуб, Зінаіда Гіпіус, Аляксандр Блок, Усевалад Меерхольд і іншыя.

А вось як апісвае сваё наведванне "Іванаўскіх серад" М. В. Дабужынскі: "Прыязджаючы два разы на тыдзень у школу, я вельмі хутка праз Званцаву пазнаёміўся з "верхнімі" жыхарамі і не прапускаў выпадку заходзіць да іх — і вельмі хутка зблізіўся з Вячаславам Іванавым і яго жонкай Лідзіяй Дзмітрыеўнай, якая заўсёды чымсьці гарэла… Званцава была сваім чалавекам у Іванавых і была блізкая да ўсяго іх кола, а Валошын, адзін з найбліжэйшых сяброў Вячаслава Іванава, нават і пасяліўся ў кватэры Званцавай і жанаты быў з Маргарытай Сабашнікавай, якая вучылася ў нашай школе. Усё гэта неяк па-дамашняму зблізіла школу з Вежай, і школа не магла заставацца ўбаку ад таго, што рабілася "над ёй".

Значэнне гэтага літаратурна-мастацкага цэнтра было немалым. Мікалай Бярдзяеў пасля пісаў: "У гэтых гутарках мы сябе не адчувалі адарванымі ад жыцця. У іх адчувалася стыхія, якая вызваляла. Потым пачаўся іншы перыяд рускага жыцця. Многае было паглыблена. Усё дыферэнцыравалася па розных кірунках і сферах творчасці. Сведамасць вельмі вырасла з таго часу. Новая паэзія, новае мастацтва былі прызнаныя і ўвайшлі ў агульную культуру".

Міжволі напрошваецца пытанне: ці быў Марк Шагал наведвальнікам гэтых іванаўскіх журфіксаў? Часткова адказ на яго можна знайсці ў тых жа ўспамінах М. Дабужынскага: "Некаторыя вучні, згодна з прыкладам Бакста і маім, бывалі таксама наведвальнікамі гасціннай Вежы. Сама ж школа пад Вежай станавілася не толькі школай, а маленькім "агменем", садружнасцю, дзе ў выключнай атмасферы спела нямала будучых мастакоў".

Але яшчэ большую ўпэўненасць у тым, што пачатковец-мастак з Віцебска Марк Шагал наведваў "Іванаўскія серады", усяляе ў мяне меркаванне Мерэт Мэер, якая пра гэты перыяд жыцця свайго дзеда, у прыватнасці, піша: "Так адкрываецца новая глава ў жыцці маладога мастака (Марка Шагала. — *В. А.*), які сутыкаецца з вельмі рознымі тэндэнцыямі, такімі, напрыклад, як літаратурны сімвалізм".

Але ж Вячаслаў Іванаў якраз і быў не толькі выбітным паэтам і мысляром, але ўплывовым тэарэтыкам і прызнаным "дэміургам" рускага сімвалізму.

---

**Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ,**
**фота Святланы Махаленкі**

# Жаніх з іншага тысячагоддзя

## Абрад "Жаніцьба Цярэшкі" можа быць унесены ў спіс нематэрыяльных каштоўнасцей ЮНЕСКА

**На пачатку студзеня многія хлопцы толькі і мараць пра тое, каб ажаніцца з "бабулечкай". Пасля Каляд такі шанс выпадае кожнаму. Галоўнае — "бабулечку" злавіць, а то як дасць лататы, дык будзеш потым з ухватам бабылём танчыць… Пра тое, як лавіць і як уцякаць, добра ведаюць на Лепельшчыне, дзе ў чарговы раз прайшла "Жаніцьба Цярэшкі".**



Абрад "Жаніцьба Цярэшкі" існуе на Віцебшчыне з дахрысціянскіх часоў. Яго сутнасць — падбор шлюбных пар сярод моладзі. У вёсцы Аношкі Лепельскага раёна Цярэшку жэняць да гэтае пары… У чым жа асаблівасці гэтага "шлюбу"?

Жэняць Цярэшку ў пару Калядных вячорак. Мясцовыя жыхары і госці збіраюцца ў адной хаце: для гаспадароў прыняць іх — гонар. Сярод замужніх жанчын сталага веку выбіраюць "маці", сярод мужчын — "бацьку". Гэтая пара (звычайна па папярэдняй дамове з удзельнікамі) жэніць астатнія, што выбіраюць сярод моладзі (але дзяўчыну ва ўсіх абрадавых дзеях называюць "бабулечкай", а хлопца — "дзядулечкам"): спяваюць шлюбную песню, частуюць маладых гарэлкай і "скручваюць" іх у танцы. Пад "Лявоніху" маладая танчыць з "бацькам", а жаніх з "маці", потым "бацька" і жаніх мяняюцца месцамі.

Пасля пачынаюцца гульні, танцы і выпрабаванні. Напрыклад, "дзядулечку" прапануюць "дастаць вішаньку". Дзяўчына становіцца на лаву, а перад ёй, сашчапіўшы рукі на плячах адзін аднаго становяцца два хлопцы. Жаніху дзяўчыны трэба падскочыць і пераадолець гэты "плот", каб "дастаць вішаньку" — сімвалічна пацалаваць дзяўчыну.

Большасць забаў і танцаў на Цярэшку носіць выразны эратычны характар. Але мясцовыя жыхары аднагалосна сцвярджаюць, што распусты ў гульнях няма і не было. Каму ж патрэбна такая слава на ўсю вёску? А калі б нешта выключнае і здарылася, то віноўніка ці віноўніцу пад ручкі вывелі б з хаты. Этнографы апісваюць выпадак, калі дзяўчыну выгналі з Цярэшкі за тое, што яна заспявала свайму глухаватаму кавалеру абразлівую "цярэшку", дзе пасмяялася з таго, што ён дрэнна чуе. Што й казаць пра тое, калі б нехта павёў сябе больш непрыстойна.

Дарэчы, абрадавыя гульні даюць магчымасць пазбавіцца неўпадабанай пары як дзяўчыне, так і хлопцу. "Бабулькі" становяцца ў адзін шэраг, "дзядулькі" — у другі і па чарзе ловяць адно аднаго, хаваючыся за спінамі іншых удзельнікаў. Ловы адбываюцца пад кароткія песні-цярэшкі. Напрыклад (спявае дзяўчына):

*А ты ж мой дзядулечка,*
*Я ж твая бабулечка!*
*Я цябе лавіці буду,*
*Я цябе любіці буду.*

Калі жаніх ці нявеста па нейкіх прычынах не задаволены сваёй парай, яны могуць збягаць зусім не сімвалічна, што б там ні спявалі. А калі дзядулечка і бабулечка ўпадабалі адно аднаго, то пасля абраду нярэдка ладзілі сапраўднае вяселле.

Гульні чаргуюцца з танцамі: традыцыйныя для Лепельшчыны падыспань, кракавяк, полька, бабыль. Танчаць пад гармонік і дуду. Заканчваецца "Жаніцьба Цярэшкі" святочным застоллем, дзе не толькі ядуць, але і спяваюць. За стол сядаюць парамі, — так, як і "пабраліся".

"Жаніцьба Цярэшкі" на Лепельшчыне — не рэканструкцыя абраду (дарэчы, ён не знік нават калі быў забаронены: цішком Цярэшку ладзілі невялікімі кампаніямі). Валянціна Крыцкая ў маладосці была "бабулечкай" і жаніла Цярэшку. Цяпер на свяце яна — "маці". Старэйшае пакаленне не рэканструюе падзеі, а перадае ўласны жыццёвы вопыт сваім нашчадкам.

"Распарадчыца" свята — інструктар-метадыст па турызме фізкультурна-аздараўленчага цэнтра аддзела спорту і турызму Лепельскага райвыканкама, каардынатар зялёнага маршрута "Край жоўтых гарлачыкаў і сівых валуноў" Вольга Махаленка зазначае: "Жаніцьба Цярэшкі" для каманды, якая працуе на маршруце, — традыцыйнае свята. Мы загадзя пачынаем думаць: дзе гэтым разам будзем "жаніць", у чыёй хаце, у якой вёсцы. Ад гэтых думак адразу ўзнімаецца настрой".

Дзякуючы намаганням арганізатараў маршруту, "Жаніцьба Цярэшкі" ўключана ў Спіс нематэрыяльных каштоўнасцей Беларусі, вядзецца праца над тым, каб уключыць абрад і ў Спіс нематэрыяльных каштоўнасцей ЮНЕСКА. Магчыма, абрад стане і "турыстычным аб'ектам". "Дзеля чаго людзі вандруюць? — разважае Вольга Махаленка. — Дзеля таго, каб дазнацца пра адметнасці іншага народа, ім гэта цікава. Спадзяюся, што такія апантаныя і зацікаўленыя турысты хутка змогуць дaведацца і пра асаблівасці беларускай культуры, далучыўшыся да "Жаніцьбы Цярэшкі".

Гасцей на Цярэшку заўсёды віталі з ахвотай. Моладзь спрадвеку хадзіла з вёскі на вёску, жаніла не адзін дзень, у розных месцах. Так што і невялікая група людзей-турыстаў з "вельмі далёкай вёскі" традыцыйнаму ходу свята замінаць не будзе.

Аднак асноўная мэта тых, хто сёння збіраецца на свята, — згуртаваць пакаленні, захаваць аўтэнтычную традыцыю, што існуе больш як дзесяць стагоддзяў, і перадаць яе моладзі, каб калісьці не прыйшлося "Жаніцьбу Цярэшкі" рэканструяваць…

"Калі жывуць народныя звычаі і абрады, то жыве нацыя", — упэўнена Вольга Махаленка. І на наступны год на Лепельшчыне зноў заспяваюць: "Цярэшка, каху, каху, што ў цябе ў мяху, у мяху?"

*На здымку: удзельнікі абрада.*

***Завяршаецца аўтарская работа над другім выданнем энцыклапедычнага даведніка "Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах". Матэрыялы для яго дасылалі па электроннай пошце з розных куткоў Расійскай Федэрацыі, Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі. Сваю добрую справу зрабіў і артыкул у "ЛіМе" "Рыхтуецца да друку" (10 снежня, 2010 г.). Дзякуючы яму некалькі артыкулаў пра асоб, якія зрабілі свой уклад у развіццё расійскай эканомікі і культуры, даслаў са Светлагорска пісьменнік Ізяслаў Катляроў. Былі і тэлефонныя водгукі. Спадзяёмся, што даведнік пабачыць свет да канца першага паўгоддзя. Ніжэй прапануем увазе чытачоў адзін з дописаў, што прыйшоў у рэдакцыю даведніка з Санкт-Пецярбурга, а таксама артыкулы пра знакамітых дзеячаў культуры, якія з'яўляюцца ўраджэнцамі нашай краіны, хаця звычайна не атаясамліваюцца з Беларуссю.***

# Вялікі род дзеда Кандрата

## З адной вёскі на Гомельшчыне выйшлі людзі, якія пакінулі добры след у Ветцы, Санкт-Пецярбургу, Мінску, на будаўніцтве Саяна-Шушанскай і іншых гідраэлектрастанцый

**Раіса БАРАДЗІНА, г. Санкт-Пецярбург**

Мой дзядуля Кандрат Кузьміч Самонаў нарадзіўся ў вёсцы Чыстыя Лужы каля горада Ветка на гомельскім Палессі і жыў там да 1934 года. Аднасяльчане яго паважалі: быў вельмі працавіты і лічыўся серадняком. З ранняй вясны і да позняй восені шчыраваў на полі, а на зіму накіроўваўся ў ваколіцы Кіева, дзе наймаўся да купцоў: перавозіў на сваім кані іх тавары.

У 1904-м Кандрат вярнуўся пасля салдацкай службы дадому і ажаніўся з Сінкліціяй — у вёсцы яе звалі Сынклета. Яе бацькам быў Самойла (павясковаму Самылік) Барадзін. У вёсцы жыло шмат Барадзіных (кажуць, прозвішча іх — ад перамогі над французамі на Барадзінскім полі), пазней дзве дачкі Кандрата выйшлі замуж за прадстаўнікоў гэтага роду: старэйшая, мая маці Пелагея, — за Міхала, а Вольга — за Аўраама. Мая мама з'явілася на свет у 1905 годзе, а за ёй, прыкладна праз кожныя два гады, Сынклета нарадзіла Кандрату яшчэ сем дачок. Дзед жа вельмі хацеў сына-памочніка.

Што ж датычыцца мяне, то я, унучка дзядулі Кандрата, у 1949 годзе, закончыўла Веткаўскую школу, паступіла ў Ленінградскі дзяржуніверсітэт імя А. Жданава (ЛДУ). У 1954 годзе атрымала дыплом па спецыяльнасці "геадэзія". Была накіравана на працу ў інстытут Гідраленпраект, дзе працавала 30 год, да пенсіі. 14 гадоў мне давялося бесперапынна праводзіць у круглагадовых або сезонных экспедыцыях, якія рыхтавалі праекты самых буйных тады ў свеце гідраэлектрастанцый на Енісеі (Саяна-Шушанская і Краснаярская), Іртышы, Амуры, Лене, Вілюі. Былі росшукі ў Манголіі, Якуціі, Дагестане, на Паўночным Урале. Ды на якіх бы далёкіх прасторах краіны я ні працавала, заўсёды памятала пра маю любімую Радзіму: спявала беларускія народныя песні, дэкламавала "Мой родны кут, як ты мне мілы…". Усе гады паміж сем'ямі дзевяці дачок дзеда Кандрата і нашай, пецярбургскай, захоўваюцца роднасныя стасункі, мы імкнёмся падтрымліваць адно адных.

Вось ужо 61 год, як я жыву ў Ленінградзе-Пецярбургу. Па меры магчымасці выконваю грамадскую работу ў Спецыялізаваным фондзе расійска-беларускага партнёрства "Белыя Росы". У прыватнасці, даглядаю на Піскароўскіх могілках стэлу, прысвечаную героям-рамеснікам, сярод якіх было многа беларусаў. Яна, дарэчы, і пастаўлена ад імя беларускага народа.

У Ленінградзе-Пецярбургу таксама жыў і працаваў мой брат, ураджэнец вёскі Чыстыя Лужы Пётр Барадзін (1923 — 2001) — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, фізік, прафесар ЛДУ, загадчык кафедры квантавых магнітных з'яў. Ён паспяхова даследаваў ядзерна-магнітны рэзананс у зямным полі. Зарэгістраваў 12 вынаходніцтваў і напісаў каля 200 навуковых прац. Пётр Барадзін займаўся спортам, захапляўся маляваннем. Вядомым мастаком была яго дачка Ганна (1960 — 2000).

З 1963 да 1983 года з намі ў Ленінградзе жыла і наша мама Пелагея, якую з 40-х гадоў усе сталі зваць Палінай. Цікава, што ў вайну яна ўзначаліла пешую эвакуацыю жывёлы з Веткаўшчыны ажно за 1500 кіламетраў, у Саратаўскую вобласць.

З Ленінграда мама разам з маёй дачкой Таняй і сям'ёй брата кожнае лета ездзіла ў Ветку: пабачыцца з дзядулем і роднымі, адпачыць на радзіме, дзе такі цудоўны клімат. А яшчэ — рака Сож! Тады Сож быў паўнаводным, па ім хадзілі пасажырскія параходы. Ля рэчкі прыгожыя пясчаныя пляжы. Я ж у летнія сезоны амаль заўсёды знаходзілася ў экспедыцыях.

Як бачым, у дзеда Кандрата, заснавальніка разгалінаванага роду, шмат нашчадкаў. Сярод іх ёсць людзі розных прафесій: выкладчыкі і лекары, інжынеры і будаўнікі, музыканты і мастакі… Але галоўнае, што ўсе яны вартыя людзі, з пакалення ў пакаленне нясуць і перадаюць лепшыя якасці свайго продка — працавітасць, арганізаванасць, сумленнасць. Гэта якасці сапраўдных беларусаў.

## У будучы даведнік

**Аксана СПРЫНЧАН**



**ВЫГОЦКІ** Леў Сямёнавіч (17.11.1896, г. Орша Віцебскай вобл. — 11.06.1934, г. Масква), расійскі псіхолаг, мастацтвазнаўца; стваральнік культурна-гістарычнай тэорыі развіцця чалавечай псіхікі; заснавальнік культурна-гістарычнай школы ў псіхалогіі. Нарадзіўся ў Оршы, але ўжо праз год сям'я пераехала ў г. Гомель. Вучыўся пераважна дома, толькі два апошнія класы наведваў прыватную гомельскую гімназію А. Ратнера. Скончыў Маскоўскі ўніверсітэт (1917). У 1919 — 1923 гг. жыў і працаваў у Беларусі. З 1924 г. ў Маскоўскім інстытуце эксперыментальнай псіхалогіі, потым у заснаваным ім Інстытуце дэфекталогіі. Даследаваў грамадскую, дзіцячую, педагагічную і клінічную псіхалогіі. У сваёй культурна-гістарычнай тэорыі развіцця псіхікі вылучаў два злітыя ў сваім развіцці планы паводзін чалавека — натуральны і культурны. Лічыў, што культура стварае асобыя формы паводзін і "відазмяняе дзейнасць псіхічных функцый чалавека". Сцвярджаў, што "свядомасць адлюстроўвае сябе ў слове, як сонца ў малой кроплі вады", а асэнсаванне слова "ёсць мікракосм чалавечай свядомасці". Аўтар кніг "Гісторыя развіцця вышэйшых псіхічных функцый" (1930 — 1931, апубл. 1960), "Мысленне і мова" (1934) і інш. У 1936 — 1955 гг. працы В. у СССР не выдаваліся. Калі В. везлі ў бальніцу, ён узяў з сабою ўлюбёнага "Гамлета". У яго працы пра трагедыю У. Шэкспіра было пазначана, што галоўны стан Гамлета — гатоўнасць. Паводле сведчання медыцынскай сястры, апошнія словы В. — "я гатовы". Урна з прахам захавана на Новадзявочых могілках у Маскве. У 1996 г. яго імя прысвоена Інстытуту псіхалогіі Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта.

*Тв.*: Собр. соч. Т. 1 — 6. М., 1982 — 84.



**СМАКТУНОЎСКІ** Інакенцій Міхайлавіч (28.03.1925, с. Таццінаўка Шагарскага р-на Томскай вобл., Расія — 3.8.1994, г. Масква), расійскі акцёр. Народны артыст СССР (1974). Герой Сацыялістычнай Працы (1990). Нарадзіўся ў сям'і селяніна. Сапраўднае прозвішча Смактуновіч. Прадзед С. — беларус паводле нацыянальнасці — служыў егерам у Белавежскай пушчы, выпадкова забіў зубра і па даносе быў сасланы ў Сібір. З тых часоў Смактуновічы жылі ў Краснаярскім краі. Паводле ініцыятывы беларускай дыяспары Томска ў Шагарскім р-не адкрыты музей С. Удзельнік Другой сусв. вайны, удзельнічаў у бітве на Курскай дузе, у фарсіраванні Дняпра, вызваленні Кіева. Быў у палоне, збег. Дайшоў да Берліна. Вучыўся ў студыі пры Краснаярскім драматычным тэатры імя А. Пушкіна (1945 — 1946). З 1946 г. працаваў у тэатрах Нарыльска, Махачкалы, Валгаграда, Масквы, у 1957 — 1960 у Ленінградскім Вялікім драматычным тэатры імя М. Горкага, з 1971 у Акадэмічным Малым тэатры (Масква), з 1976 у Маскоўскім мастацкім акадэмічным тэатры (МХАТ; з 1989 МХАТ імя А. Чэхава). Творчай манеры С. уласцівыя вытанчаны інтэлектуалізм, складанасць псіхалагічнага малюнка роляў: князь Мышкін ("Ідыёт" паводле Ф. Дастаеўскага), Цар Фёдар ("Цар Фёдар Іаанавіч" А. Талстога), Іванаў, Дорн ("Іванаў", "Чайка" Чэхава) і інш. Здымаўся ў кінастужках: "9 дзён аднаго года" (1961), "Гамлет" (1964), "Сцеражыся аўтамабіля" (1966), "Злачынства і пакаранне" (1969), "Маленькія трагедыі" (1980), "Дамскі шавец" (1990, прэмія "НІКА" ў намінацыі "Акцёр", 1990) і інш. Чытаў аўтарскія тэксты да ігравых і дакументальных фільмаў, працаваў на радыё і тэлебачанні. Аўтар аповесці "Мяне пакінулі жыць" (часопіс "Октябрь", 1996 № 10). Ленінская прэмія (1965, за галоўную ролю ў фільме "Гамлет"), Дзяржаўная прэмія Расіі імя братоў Васільевых (1971, за ролю Парфірыя Пятровіча ў фільме "Злачынства і пакаранне"). Прэмія "НІКА" ў намінацыі "Прыз за ўнёсак ў кінамастацтва" (1993). У гонар С. названая адна з малых планет (планета нумар 4926).



**СТРАВІНСКІ** Фёдар Ігнатавіч (20.06.1843, маёнтак Новы Двор Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер Гомельскага вобл. — 4.12.1902, г. Санкт-Пецярбург), расійскі спявак (бас). Заслужаны артыст імператарскіх тэатраў (1901). Бацька кампазітара І. Стравінскага. Адзін з выдатных папярэднікаў Ф. Шаляпіна. Шляхецкі род Стравінскіх герба "Суліма" быў вядомы ў ВКЛ з пачатку XVI ст. Сярод яго прадстаўнікоў паслы на соймы Рэчы Паспалітай і ВКЛ, ваяводы, кашталяны, вайскоўцы, дзяржаўныя служачыя розных рангаў. Паступова па многіх прычынах род прыходзіць у заняпад. Бацька, Ігнат Ігнатавіч, меў аграномічную адукацыю, наймаўся кіраваць памешчыцкімі маёнткамі, але асаблівых поспехаў у гэтым не дасягнуў, і сям'я жыла небагата. Напачатку С. атрымаў хатнюю адукацыю пад наглядам маці Аляксандры Іванаўны (да замужжа Скараходавa), якая была добрым музыкантам, мела прыгожы голас і любіла спяваць. У сярэдзіне 1850-х гг. паступіў у Мазырскае дварянскае вучылішча, якое ў 1859 г. было рэарганізавана ў Мазырскую гімназію. У 1859 г. сям'я пераязджае ва Украіну, і да 1861 г. С. вучыцца ў Нежынскай гімназіі, а ў 1861 г. паступае ў Мазырскую гімназію, якую заканчвае ў чэрвені 1865 г., калі гімназія стала ўжо класічнай і яе выпускнікі набылі правa паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Пэўны адбітак на фарміраванне светапогляду С. наклалі падзеі 1863 г., калі ў хваляваннях супраць царскай улады ўдзельнічалі і вучні Мазырскай гімназіі. Падчас вучобы С. спяваў у студэнцкіх спектаклях, грошы ад якіх ішлі на дапамогу бедным навучэнцам. У 1873 г. скончыў Пецярбургскую кансерваторыю. Саліст Кіеўскага (з 1873 г.) і Марыінскага (з 1876 г.) оперных тэатраў. Выканаў звыш 70 рознахарактарных партый у операх расійскіх і замежных кампазітараў. Сярод лепшых роляў: Фарлаф ("Руслан і Людміла" М. Глінкі), Варлам і Рангоні ("Барыс Гадуноў" М. Мусаргскага), Яромка, Алаферн ("Варожая сіла" і "Юдзіф" А. Сярова), Млынар ("Русалка" А. Даргамыжскага), Скула ("Князь Ігар" А. Барадзіна) і інш. С. валодаў яркім сцэнічным талентам, майстэрствам пераўвасаблення. Хоць С. больш вядомы як оперны спявак, ён быў і выдатным камерным выканаўцам. У яго рэпертуар уваходзілі песні і рамансы Глінкі, Даргамыжскага, М. Рымскага-Корсакава, Ф. Шуберта, Р. Шумана і інш. С. быў таксама таленавітым мастаком: рабіў замалёўкі оперных персанажаў і людзей, з якімі сустракаўся. Калекцыяніраваў гістарычныя кнігі і гравюры. Узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава III ступені, ордэнам Св. Ганны III ступені. Быў пахаваны на Волкаўскіх праваслаўных могілках у Пецярбургу, затым перазахаваны на могілках Новадзявочага манастыра, а ў 1936 г. яго астанкі і помнік з яго магілы перанесены на Ціхвінскія могілкі Аляксандра-Неўскай лаўры (Некропаль майстроў мастацтваў) у Санкт-Пецярбургу.

Віктар СУПРУНЧУК

# Старшына

## Пра майго сябра, пісьменніка Міколу Калінковіча

Лета 1990 года. Позні вечар. Я збіраюся спаць, таму што раніцай з сям'ёй адлятаю на адпачынак у Піцунду. Мне нешта кепска, п'ю валяр'янку, у чарговы раз пераглядваю чамаданы і, нарэшце, забіраюся ў ложак.

Летняя цішыня, якая, здаецца, вагаецца, нібы лотаць на лузе. Але мне неяк не па сабе. А дваццаць трэцяй гадзіне ў кватэры прагучаў рэзкі і доўгі званок. Я падумаў: "Якая яшчэ навалач збіраецца турбаваць, калі мне падымацца праз чатыры гадзіны". Аднак што рабіць.

Я падняў трубку. Вельмі спакойны мужчынскі голас спытаў:

— Гэта Віктар Супрунчук?

—Так, — адказаў я.

— Коля Калінковіч загінуў. Учора… — і доўгія гудкі.

Я стаяў ля тэлефона на каленях і няўцямна глядзеў на апарат, нічога не разумеючы, сэнс слоў да мяне не даходзіў. Праз нейкае імгненне нібыта прачнулася ў галаве, і мне дайшло: загінуў Мікола. Мой сябра. Мікола Калінковіч.

Перад маімі вачыма ліст, што я атрымаў ад яго 10 мая 1989 года: "Віктар, прывітанне! Прачытаў у "Настаўніцкай газеце" тваё "Касінера". Малайчына. Прачытала з цікавасцю і жонка. Мы рады за цябе. Ад сэрца віншую. Бачу новую якасць тваёй творчасці, трансфармацыю тых здабыткаў моўнага, стылявога, партрэтнага, пачуццёвага, сітуацыйнага і іншага плану, якая ў цябе была бачна ўжо ў першых апавяданнях-творах, — зараз — на новай вышыні, больш яскравай, змястоўнай, поўнай, мастацкай. Па-сапраўднаму — мастацкай!.. Гэта ўрэшце — праца. І яе здабыткі...

Не спыняцца! Так і працягваць. Калі выйдзе раман? Не забудзь і пра мяне...

Далей вось якая справа. Ці зможаш, Віктар, ты мне напісаць штонебудзь пра "Братэрства"? (Выходзіў такі штогадовы зборнік у "Мастацкай літаратуры" — *В.С.*) І яго выхады? У мяне ёсць надта добры матэрыял пра таленавітага і цудоўнага чалавека, паэта Керыма Курбанепесава (памятаеш, дзякуючы табе і палкоўніку Д. Я. Післякову з ім пазнаёміўся ў Ашхабадзе). Керым заўчасна пайшоў ад нас у 1988 годзе. Не было яшчэ і 60-ці. Керыму я многім абавязаны. І вось свайго роду ўспаміны пра яго, погляд на творчасць, пра беларуска-туркменскія сувязі мне і хацелася б прапанаваць "Братэрству". Можа, і "Полымя" б узялося? Зараз перадрукоўваю начысцютка — старонак усіх 50-60 атрымалася: "Керим Курбаннепесов. Таким я его знал". Рубрыка — "Страницы записных книжек". Там вядзецца гаворка пра М. Танка, Н. Гілевіча, А. Жука, П. Панчанку... Яны сябравалі з ім, ліставаліся, ёсць кнігі з аўтографамі. Парай, калі ласка. Трэба ў Беларусі абавязкова надрукаваць пра гэтага цудоўнага чалавека і паэта..."

Мы з ім разам паступалі на факультэт журналістыкі. Я памятаю яго зграбную постаць у ваеннай форме з пагонамі старшыны. Ён вельмі прыгожа смяяўся, пабліскваючы металічным зубам-"фіксай", і амаль адразу пасябраваў з усімі аднакурснікамі. Энергія ў ім, здавалася, ажно кіпела. Ён не траціў дарэмна ніводнай хвіліны. Нешта пісаў, апантана гуляў у футбол. Аказваецца, меў першы ці другі разрад па гэтым відзе спорту і часта выступаў за каманду Лунінца, не памятаю, якую назву яна тады мела.

Канечне, заглядаліся на Міколу нашы дзяўчаты, але мы ведалі, што ў яго была каханая. Света, Святлана... Яна вучылася ў медыцынскім інстытуце. І, мусіць, на другім курсе яны згулялі вяселле. Я таксама на ім быў. Прыгожае палескае вяселле...

Неяк сябар сказаў мне, што едзе ў Ленінград, але навошта? Прыйдзе час — даведаюся. І хутка я даведаўся. Ён знайшоў найцікавейшы факт: у час Першай сусветнай вайны вялікі рускі паэт Аляксандр Блок служыў на Палессі. У прыватнасці, быў у Пінску. Вочы ў Міколы гарэлі, ён ужо ўвесь жыў гэтай тэмай. Вельмі часта ездзіў у Ленінград, працаваў у бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына. Знайшоў там унікальныя дакументы пра Аляксандра Блока, якія былі невядомыя дагэтуль. Праца Міколы стала сапраўдным адкрыццём. Ён напісаў кнігу "Палескія дні Аляксандра Блока". Лёс у яе быў няпросты. Выдаваць кнігу не хацелі...



Фота з асабістага архіва аўтара

Пасля заканчэння ўніверсітэта Мікола некаторы час працаваў у лунінецкай "раёнцы". Неспадзеўкі ў горадзе з'яўляецца карэспандэнт часопіса "Огонёк", які быццам выпадкова знаёміцца з Калінковічам. Мікола, шчырая душа, расказвае пра сваю працу, пра тое, што знайшоў у Ленінградзе ў бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына. І дае, як цяпер разумею, журналісту для знаёмства рукапіс кнігі. Праз некаторы час у некалькіх нумарах "Огонька" з'яўляюцца вялікія матэрыялы пра невядомыя старонкі жыцця Блока за подпісам маскоўскага карэспандэнта, як яго адкрыццё, і толькі напрыканцы публікацый маленькая заўвага: гэтай тэматыкай таксама займаецца малады журналіст з беларускага гарадка Лунінец. Кніга Міколы Калінковіча "Палескія дні Аляксандра Блока" ўсё ж выйшла, але без тых найбольш цікавых старонак, якія "запазычыў" масквіч.

Ён быў членам партыі. Як вядома, партыйныя рэвізоры рэгулярна правяралі правільнасць уплаты ўзносаў. І вось пасля чарговай праверкі высветлілася, што студэнт Калінковіч недаплаціў некалькі рублёў. Гэтае пытанне разглядалі на партыйным сходзе факультэта журналістыкі. І тут стала вядома, што Мікола адначасова працаваў у рэдакцыі "Сельской газеты", у шматтыражцы "Советский медик", гуляў за футбольную каманду Лунінца і яшчэ нешта рабіў. Гэта з улікам таго, што вучыўся на дзённым аддзяленні. У газеце для вяскоўцаў ён часта друкаваў цікавыя артыкулы пад рубрыкай "Карэспандэнт выехаў на месца". Што б Мікола ні рабіў, усё атрымлівалася таленавіта. Дарэчы, на тым сходзе я выступіў у яго абарону, і страла гневу працяла і мяне, але я ніколі не пашкадаваў, што заступіўся за сябра. Мне здаецца, сяброўства з Міколам стала яшчэ мацнейшым.

Пасля размеркавання я застаўся працаваць у Мінску, а Калінковіч паехаў на радзіму. Займаў пасаду намесніка рэдактара лунінецкай раённай газеты. Адчуваў там сябе не дужа камфортна. Па словах Міколы, у яго былі не зусім добрыя адносіны з адным з сакратароў райкама партыі. Яму было псіхалагічна няўтульна. Хацелася нейкіх змен, чагосьці іншага, большага. У творчасці і, магчыма, у жыцці. "Палескія дні Аляксандра Блока" напісаны, але пакуль не надрукаваны. Што наперадзе — невядома. І гэтая сустрэча была з аднаго боку нечаканай, а з другога — прадказальнай. Яго запрашаюць на працу ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі.

Вучыцца ў Мінску. Мы часта з ім сустракаемся, гаворым пра літаратуру. Наогул, пра жыццё. Ён ужо расчараваны, шкадуе аб сваім выбары. Савецкі Саюз увёў войскі ў Афганістан. Туды накіроўваюць усё больш і больш людзей. Пражэрлівы Малох набірае сілу.

Аднымі з першых у Афганістане

Неяк сябар сказаў мне, што едзе ў Ленінград, але навошта? Прыйдзе час — даведаюся. І хутка я даведаўся. Ён знайшоў найцікавейшы факт: у час Першай сусветнай вайны вялікі рускі паэт Аляксандр Блок служыў на Палессі. У прыватнасці, быў у Пінску. Вочы ў Міколы гарэлі, ён ужо ўвесь жыў гэтай тэмай. Вельмі часта ездзіў у Ленінград, працаваў у бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына. Знайшоў там унікальныя дакументы пра Аляксандра Блока, якія былі невядомыя дагэтуль. Праца Міколы стала сапраўдным адкрыццём. Ён напісаў кнігу "Палескія дні Аляксандра Блока".

апынуліся чэкісты з сярэднеазіяцкіх рэспублік. І гэта зразумела, калі ўспомніць склад насельніцтва гэтай краіны. Так, напрыклад, у Камітэце дзяржбяспекі Туркменскай ССР вызвалілася шмат вакансій. Іх трэба было запоўніць. У Маскве прымаюць рашэнне накіраваць у Туркменію маладых чэкістаў. Сярод іх быў і Мікола.

Мы сустракаемся з Калінковічам летнімі днямі 1980 года. Ён усхваляваны. Ён вымушаны ехаць з роднага краю ў невядомую і далёкую Туркменію. Я спачуваю яму. Што можна параіць, чым дапамагчы? І раптам успамінаю, што ў мяне ёсць добры прыяцель, цудоўны чалавек Дзмітрый Яфімавіч Післякоў. Я з ім працаваў некаторы час у шматтыражнай газеце "Электрон". Ён былы ваенны журналіст, палкоўнік у адстаўцы. Родам са Слаўгарадскага раёна. Прайшоў вайну, шмат гадоў аддаў арміі. У Мінск прыехаў з пасады намесніка рэдактара газеты Сярэднеазіяцкай ваеннай акругі. З ім сябравалі многія партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, найбольш вядомыя пісьменнікі, артысты, мастакі, журналісты гэтага агромністага рэгіёна. Ён здолеў зразумець душу людзей спякотнага азіяцкага краю, які быў для яго амаль сапраўднай радзімай.

Я дамовіўся з Дзмітрыем Яфімавічам, і вось мы ўтрох (трэці — Мікола Калінковіч) сядзім у невялічкім кафэ ў Мінску на вуліцы Якуба Коласа. Думаем, як наладзіць Міколава жыццё ў далёкай Туркменіі. Дзмітрый Яфімавіч упэўнена гаворыць: усё будзе ў парадку. Маўляў, ягоныя сябры сустрэнуць як самага дарагога і блізкага чалавека. Ён піша для Міколы рэкамендацыйныя пісьмы, якія той павінен перадаць у Ашхабадзе. Пасля Калінковіч мне прызнаваўся, што гэтыя пісьмы адыгралі сапраўды магічную ролю. Дзякуючы ім Мікола адразу стаў сваім чалавекам у Сярэдняй Азіі. Яны адчынілі яму шмат якія патрэбныя дзверы. Усход, як кажуць, справа тонкая...

У Ашхабадзе яго прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Там ён выдаў кнігі "Не обрывается земная связь", "Имя моё — Свобода", "Возвращение рассветной рани", "Не должен неизвестным быть солдат"… На туркменскім радыё паставілі п'есы "Июльское зарево", "Комиссар Закаспия"… Піша пра далёкую грамадзянскую вайну, барацьбу з басмачамі. І, канечне ж, пра чэкістаў. Знаходзіць у архівах імёны землякоў, якіх лёс закінуў на зямлю Закаспія. Творы дакументальныя, напісаны добрым мастацкім словам, чытаеш як гістарычны дэтэктыў.

У прадмове да кнігі "Не обрывается земная связь" лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Туркменіі імя Махтумкулі пісьменнік Валянцін Рыбін так пісаў пра гістарычныя творы Калінковіча: "Скрупулёзная, настойлівая, часам дэталёва-прыдзірлівая праца аўтара над архіўнымі дакументамі, іх зборам, разуменнем дазволіла вобразы камісараў Закаспія стварыць такімі, якімі яны былі ў жыцці…"

У сваім надпісе на кнізе Мікола для мяне пакінуў такія радкі: "…з надзеяй, што зямная сувязь між намі ніколі не парвецца…"

У Ашхабадзе ў яго было шмат сяброў, але моцна цягнула на радзіму, хацелася дыхаць родным паветрам, часцей бачыць бацькоў, родных.

У 1986 годзе я патрапіў у Маскву на нейкі семінар нарысістаў (узначальваў тады аддзел нарыса ў часопісе "Полымя"). Натуральна, начаваў у Міколы. Ён на гэты час перабраўся ў сталіцу, бо вучыўся ў аспірантуры Вышэйшай школы КДБ. Жыў у Цёплым Стане.

Неяк я зайшоў у краму каля дома, дзе жыў Мікола. Убачыў адэскую кілбасу, замарожаную рыбу, рознае мяса і тавары, якіх тады не было ў Мінску. Памятаю, купіў ажно шэсць кілаграмаў кілбасы, якую вырабілі на маёй радзіме ў Бярозаўскім раёне, Брэсцкай вобласці. Вечарам мы сядзелі за сталом у Міколы, доўга і весела гаманілі. Худзенькая, невысокага росту, яго верная жонка Света, маці дзвюх дачок, была побач, і мы разам многае ўспаміналі і планавалі нешта, што, магчыма, некалі збудзецца. Мікола гаварыў, што захапіўся постаццю Уладзіміра Самойлы, найвыдатнейшага пісьменніка, біяграфія і творчасць якога непарыўна звязаны з Янкам Купалам.

У Калінковічаў быў вялізны кот. Раніцаю прачынаюся, а Света рагоча, ажно заходзіцца... Сваю сумку з дарагой пакупкай я пакінуў у калідоры, а кот на працягу ночы, прываблены смачным пахам, падраў тонкі нейлон і пагрыз амаль усю кілбасу. Мы рагаталі, а кот збянтэжана назіраў за намі...

Званок. Мікола прылятае ў Мінск з Тбілісі, дзе атрымаў пасаду начальніка кафедры школы КДБ пасля заканчэння вучобы ў аспірантуры і абароны дысертацыі на званне кандыдата гістарычных навук.

Мы сустракаемся ў атэлі "Беларусь". Няма ўжо пісьменніка Уладзіслава Рубанава, які быў з намі. Ён перажыў Міколу на чатыры гады. У сяброўскай кампаніі яшчэ некалькі чалавек. Мы гамонім, гамонім... П'ём грузінскае віно.

Мінула зусім мала часу, як я правёў сябра на самалёт... І вось званок. Міколы няма…

У кожнай гісторыі ёсць свае таямніцы. Неўзабаве пасля смерці Міколы Калінковіча ў "Звяздзе" друкавалася інтэрв'ю тагачаснага кіраўніка КДБ Беларусі, у якім ён нешта гаварыў пра майго сябра. Не хачу ўспамінаць. Тое, што з Міколам здарылася, адышло ў вечнасць. Мне хацелася б яшчэ многа сказаць, і я скажу. Аднак боль ад непапраўнай страты застаецца назаўсёды…

***На здымку: вяселле Міколы Калінковіча.***

# Колькі ў нас талентаў!

**У выставачнай зале Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці экспанавалася традыцыйная, 18-я па ліку, рэспубліканская выстаўка "Калядныя ўзоры", якую штогод ладзіць Беларускі саюз майстроў народнай творчасці.**

**Яўген САХУТА,**
**фота аўтара**



Шматлікіх майстроў і гасцей, што завіталі на адкрыццё, сустракала майстрыха-выцінаншчыца Вольга Бабурына са сваёй чатырохгадовай дачушкай, якія наладзілі імправізаваны майстар-клас "мастацтва паперы і нажніц", калісьці пашыранага, пасля практычна забытага, а сёння адроджанага на сучасным узроўні. Кожны мог не толькі падзівіцца, якія адмысловыя кампазіцыі нараджаюцца са звычайнага аркуша паперы, але і сам узяць у рукі нажніцы. А затым — паглядзець калекцыі выцінанак у экспазіцыі: віншавальныя паштоўкі Наталлі Гамаюнавай і Наталлі Сухой, калядныя кампазіцыі Лізаветы Чарвонцавай і Ніны Міхайлавай. Папера і нажніцы — як быццам адны і тыя ж, але ў кожнай майстрыхі — уласны творчы почырк і адметная аўтарская манера. Як і павінна быць у мастацтве…

А яшчэ ў экспазіцыі — узоры ганчарства і разьбярства, ткацтва і вышыўкі, пляцення і аплікацыі з саломы, кавальства і бондарства, лозапляцення і вырабаў з бісеру. Нават навагодняя ёлка была аздоблена не стандартнымі шклянымі шарыкамі, а саламянымі цацкамі, якія выглядалі на ёй надта ж эфектна і арыгінальна.

Аснову кожных, у тым ліку і сёлетніх, "Калядных узораў" складалі творы майстроў, якія папоўнілі шэрагі БСМНТ у мінулым годзе, а таксама тых, хто ў яго збіраецца ўступіць. Так, апошнім часам прыкметна актывізавалася работа з майстрамі на Магілёўшчыне. Вось і на выстаўку (з разлікам на наступны прыём у саюз) там падрыхтавалі цэлы "дэсант" з трох дзясяткаў майстроў, творы якіх займалі добрую трэціну экспазіцыі. Адметнасць ёй надавалі характэрныя мясцовыя рамёствы, якія ўдалося адрадзіць на новым узроўні: па-мастацку вырашаныя валёнкі, якія сёння з поспехам могуць выконваць і сувенірную ролю, камплект драўлянага бандарнага посуду, серыя лялек, апранутых у строі, што ў мініяцюры імітуюць традыцыйныя народны касцюм.

Віцебшчына актыўна ўзялася адраджаць свой адметны рэгіянальны "брэнд" — мастацкі роспіс па палатне. Што ў выніку можа атрымацца — добра было відаць на выстаўцы, мажорнасць і дэкаратыўнасць якой надавалі менавіта маляваныя дываны віцебскіх майстроў. Творы Ірыны Церашковай кампазіцыйна і каларыстычна вельмі блізкія да традыцыйных, але гэта зусім не прості паўтор колішніх, а сучасная іх інтэрпрэтацыя. Святлана Скавырка, яўная прыхільніца творчасці славутага земляка Язэпа Драздовіча, цэнтр сваіх маляваных кампазіцый запаўняе архітэктурнымі матывамі роднай Глыбоччыны.

Здаецца, чым яшчэ можна сёння здзівіць прыхільнікаў мастацкай творчасці? Аказваецца, можна. Аляксандр Шыпуноў прадставіў цэлую серыю вырабаў у тэхніцы, якая яшчэ і назвы дакладнай не мае. Знешне яна нагадвае старажытную філігрань, ці скань ("сукаць" азначае скручваць два дроцікі ў шнурок, з якога фарміруецца пэўны ўзор). Але ў шырокай свядомасці філігрань — гэта каштоўныя металы ды адмысловыя вырабы, што нарадзіліся ў майстэрнях сярэднявечных ювеліраў. Тут жа — звычайны сталёвы дрот рознага дыяметра, часцей 2 — 3 міліметры, праўда, так апрацаваны, што нагадвае нейкі каштоўны метал. Зразумела, што і асартымент, і маштабы вырабаў іншыя, чым у старажытнасці: аправы для люстэркаў, міні-бары ў выглядзе віяланчэлі для дзясятка бутэлек, падсвечнікі, мангалы, розныя дэкаратыўныя кампазіцыі. Сам майстар называе гэтую тэхніку сталь-сканню, ганарыцца, што ў яго ўжо ёсць вучні. Двое з іх — Павел Цэлікавец і Аляксандр Папсуеў — таксама прадставілі на выстаўку калекцыі сваіх работ, з якімі будуць уступаць у Беларускі саюз майстроў народнай творчасці. Вось так не то адраджаюцца старажытныя, не то нараджаюцца новыя рамесніцкія традыцыі…

Зрэшты, здзівіць можа нават як быццам бы добра вядомае рамяство. Скажам, кавальства. Генадзь Савонь дэманстраваў цэлую серыю каваных вырабаў і кампазіцый, якія вызначаюцца не толькі арыгінальнасцю вырашэння, але і дасціпнымі назвамі: скручаная вузлом жалезная качарга — "Шэрлак Холмс адпачывае", вялізная канцылярская кнопка — "Падарунак любімай класнай", злучаныя ў адзіную канструкцыю з лыжкай і відэльцам масіўныя гаечныя ключы — "Хто добра працуе — той добра есць" і г.д. На розных фестывалях і кірмашах гэты "жартаўнік з кавадлам" заўсёды збірае цэлы натоўп вясёлых гледачоў, кожны з якіх знаходзіць на такіх своеасаблівых выстаўках нешта блізкае яго душы, а то і падказвае майстру новыя дасціпныя сюжэты.

Традыцыйна ў экспазіцыю "Калядных узораў" уключаюцца справаздачныя міні-выстаўкі твораў майстроў, якія па хадайніцтве БСМНТ атрымлівалі ў бягучым годзе дзяржаўныя стыпендыі на выкананне творчых работ. Летась імі былі маладая ткачыха Ганна Рымдзёнак з Германавічаў на Віцебшчыне і вядомы майстар выцінанкі Юрый Малышэўскі з Ружанаў Брэсцкай вобласці. Справаздачная калекцыя ткачыхі ўключала посцілку-перабіранку, пасцяты дыван, некалькі паясоў і ручнік з характэрнымі для Паазер'я антрапаморфнымі матывамі. Ю. Малышэўскі прадставіў серыю выцінанак на гістарычную тэматыку, выкананых у адметнай, характэрнай толькі для яго графічнай манеры.

"Якая прыгожая выстаўка! Колькі ў нас талентаў!" — такія шчырыя словы захаплення выказвалі ўсе наведвальнікі. Варта зазначыць, што былі гэта не проста дзяжурныя выказванні, а цалкам заслужаныя. Саюз майстроў вельмі прынцыпова ставіцца да арганізацыі сваіх выставак, паказвае толькі тое, што найлепшым чынам дэманструе такую найважнейшую галіну нацыянальнай культуры, як сучасная народная творчасць і традыцыйныя мастацкія рамёствы. На фоне шматлікіх выставак разнастайнага рукадзелля, а то і проста звычайнага кічу, які нярэдка выдаецца за сучаснае народнае мастацтва, выстаўкі Беларускага саюза майстроў народнай творчасці — своеасаблівы эталон, узор для тых майстроў, якія душою хіляцца да нацыянальнай культуры.



## З глыбінкі

# Вяночкі для шчасця

Яшчэ адну таленавітую душу вывела на сцяжыну вядомасці Узденская цэнтральная бібліятэка імя Паўлюка Труса, правёўшы выстаўку твораў майстра фларыстыкі Ніны Іванаўны Лятун пад прыцягальнай назвай "У царстве харастве". Тут, на Уздзеншчыне, ля вытока Нёмана, жывая душа адраджаецца, напаўняецца творчым духам і пачынае ствараць свае шэдэўры. Інакш і нельга назваць карціны і сюжэтныя кампазіцыі мастака-самавука, які ўпершыню адважыўся вынесці на "суд" грамадства сваю творчасць. Дваццаць дзевяць твораў з сухіх кветак, лістоў, зярнят, выпеставаных жаночай улюбёнасцю ў жыццё, захапляюць пагляд і сэрца. Талент шчыра працаваў, набіраўся вопыту ў стварэнні каляровасці, народнага каларыту шматвобразнасці, веры ў магчымасць запальваць сапраўдным мастацтвам. Карціны атрымаліся больш выразныя, чым напісаныя маслам. Толькі дапытаўшыся ў самога ўмельца, пачынаеш заўважаць лісточкі падбелу, клёна, бяссмертніка, палыну, пялёсткаў пралесак, астры, ружы, цюльпанаў ці плямкі бярosты...

Усе матэрыялы пералічыць немагчыма, настолькі вялікі іх спіс. Заваражваюць дакладныя архітэктурныя збудаванні, таямнічы свет кветак.

Як жа зразумела паказвае аўтар сум у вачах і ў куточках губ дзяўчыны пад капялюшыкам у карціне з назвай "Настальгія"! Як красамоўна бачны ўздым пачуццяў у творы "Кветкі для любімай"! Здаецца, што нябачны вецер разам з прыгажуняй кружыцца ў чароўным танцы.

Без усмешкі нельга глядзець на ката, які хоча ўцячы хутчэй ад марозу і просіцца ў хату, прыжмурыўшы вочы і прыставіўшы нос да нябачнага шкла акна, учапіўшыся лапай за падваконне...

А якія цудадзейныя вяночкі стварыла мастачка! Над адным лунае пара лебедзяў, над другім — анёл, ад погляду якога разліваецца святло. Гэта тая энергія, якая абуджае і жывіць душы, і вядзе ў бессмяротнасць.

Выставіла Ніна Іванаўна не толькі свае працы, але і тры творы разьбы па дрэве старэйшага сына Сяргея. Муж Уладзімір Сцяпанавіч таксама не застаецца ўбаку ад народнай творчасці. Хоць цяпер і заняты пчалярствам, але любіць плесці кошыкі і да ўсіх карцін на выстаўцы зрабіў рамкі. Прыемна адкрываць новыя імёны ў бязмежных гарызонтах народнага майстэрства.

**Тамара КАЛЯДА,**
**г. Узда**

## Афарызм

*Няма нацыі без пачуцця гістарызму, без спакойнага гонару за сябе і проста самапавагі, без веры ў тое, што яна ёсць яна, непераходзячая, сталая вечная каштоўнасць вечнага чалавецтва і па ўсіх гэтых прычынах павінна жыць, жыць дзейна і велічна, ведаючы сабе цану і ў дрэнным, і ў вялікім.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**



**Адрас рэдакцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Наклад 3140

Умоўна друк. арк. 3,72

Нумар падпісаны ў друк 20.01.2011 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7

Заказ — 233

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-6686